

# БЫЦЬ УМЕЛЫМІ, АДВАЖНЫМІ, МУЖНЫМІ!





Клубы Добраахвотнага таварыства садзеяння Арміі, Авіяцыі і Флоту...

Тут можна стаць крылатым і паляцець у неба. Можна, надзеўшы скафандр, апусціцца на дно мора. Можна стаць выдатным коннікам.

Большасць нашых спартсменаў-матацыклістаў атрымалі падрыхтоўку ў гуртках ДТСААФ. Авіямадэлісты, стралкі, марскія мадэлісты, радыёаматары-кароткахвалявікі з гордасцю носяць на грудзях значкі, якія сведчаць аб іх прыналежнасці да таварыства. Члены ДТСААФ з нязменным поспехам выступаюць на рознастайных спаборніцтвах; ім належаць многія ўсесаюзныя дасягненні.

Летась у Маскве адбыліся пятыя Усесаюзныя спаборніцтвы на першынства ДТСААФ па марскому мадэлізму. Сярод удзельнікаў у гэтых спаборніцтвах была і вялікая група беларусаў. Самаходныя мадэлі яхтаў, акіянскіх параходаў, рачных буксіраў і ваенных караблёў, зробленыя ўмелымі рукамі, прарэзвалі водную роўнядзь басейна.

Усеагульнае захапленне выклікала тады мадэль рачнога буксіра, створаная членамі Мінскага абласнога марскога клуба. Мадэль гэтая, сама даўжынёй менш поўметра, правяла ад старта да фініша звычайную, вялікую прагулачную лодку. Мадэль эскадранага мінаносца, якую зрабіў комсамолец, студэнт Беларускага лесатэхнічнага інстытута імя С. М. Кірава Усевалад Нортман, не мела сабе роўных. Яе хадавыя даныя, знешні выгляд пераўзышлі ўсё, што было створана раней. Беларускі студэнт атрымаў званне пераможцы Усесаюзных спаборніцтваў.

Сярод шматлікіх членаў ДТСААФ ёсць вялікая група спартсменаў, чыё ўменне не дэманструецца на стадыёнах, не паказваецца шумлівым натоўпам «балельшчыкаў». Гэта — радыёаматары-кароткахвалявікі. Прайшоўшы падрыхтоўку ў гуртках, многія з іх становяцца радыстаміпрафесіяналамі, смела бяруць на сябе адказную работу па сувязі самых далёкіх куткоў нашай Радзімы. Многа мужнасці патрабуе праца радыстаў-палярнікаў, радыстаўмаракоў. Без кароткахвалявікоў немагчымы былі-б паветраныя рэйсы пасажырскіх самалётаў, якія адбываюцца днём і ноччу, часта нават і ў непагоду. Штогоднія ўсесаюзныя радыёвыстаўкі наглядна паказваюць, як члены радыёсекцый клубаў ДТСААФ паспяхова распрацоўваюць пытанні тэорыі і канструявання.

На здымках: 1. На лётным полі Цэнтральнага аэраклуба БССР. Парашутыстка, студэнтка БДУ Тамара Сарока перад чарговым трэніровачным палётам. «Да палёту гатовы?» — пытае спартсменку інструктар М. Шаіпаў. «Гатова, таварыш інструктар!» «Як сябе адчуваеце?» «Выдатна!»

2. У секцыі марскога мадэлізма Мінскага абласнога клуба ідзе падрыхтоўка да вырабу першай мадэлі, якая будзе мець наборны металічны корпус. Злева направа: інжынер-інструктар В. Ермакоў, студэнт лесатэхнічнага інстытута У. Нортман і вучань 6-й школы г. Мінска Б. Серада.

3. Адзін з самых актыўных кароткахвалявікоў рэспублікі вучань 26-й чыгуначнай школы г. Мінска Валянцін Бензар. Неаднаразовы ўдзельнік буйнейшых спаборніцтваў кароткахвалявікоў, ён у мінулым годзе, працуючы на калектыўнай радыёстанцыі абласнога клуба ДТСААФ, устанавіў каля 700 сувязей з радыёаматарамі Савецкага Саюза. В. Бензар размаўляў па радыё-тэлефону з такімі аддаленымі гарадамі, як Барнаул, Ташкент, а па радыё-тэлеграфу — з Владзівастокам.

Тэкст і фота А. Дзітлава.



**Выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі старшы сяржант Іван Токараў праводзіць тактычныя заняткі з воінамі свайго аддзялення.**

Фота М. Жарава.


# МАЛАДОСЦЬ

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

**№ 2 (11). Люты, 1954 год.**

В. ГАЛКІН

# Гатовы да працы і абароны

У паўднёвым пасёлку аўтазавода на вялікай пляцоўцы, зарослай маладой зялёнай травой, сабралася вялікая група юнакоў і дзяўчат. Па чарзе кожны з іх падыходзіў да матацыкла і рабіў першую самастойную паездку. Апошнім да інструктара Пятра Сапрановіча нерашуча наблізіўся каменшчык Мікалай Сідаровіч.

— Калі можна, то я ў наступны раз, — разгублена прагаварыў ён, сарамліва апусціўшы вочы.

— Навошта-ж адкладваць? — здзіўлена спытаў інструктар. — Матэрыяльную частку матацыкла вы ведаеце нядрэнна, правілы язды таксама засвоілі. — Што-ж вам замінае? — І раптам, быццам нешта ўспомніўшы, дадаў: — З веласіпедам калі-небудзь мелі справу?

— У тым і ўся бяда, што не прыходзілася, — упоўголаса прызнаўся юнак, баючыся, каб не пачулі сябры: чаго добрага засмяюць... Але сябры не смяяліся. Інструктар узяў за руль веласіпед, які стаяў паблізу, падкаціў яго і аддаў Мікалаю.

— Вось вам машына. Заўтра — выходны дзень, патрэніруйцеся, а ў панядзелак, на наступных занятках, паглядзім, чаго дасягнулі...

Праз дзень, калі гурткоўцы збіраліся на заняткі, паказаўся веласіпедыст. Сябры пазналі ў ім Мікалая Сідаровіча. Ён упэўнена сядзеў за рулём, быццам усё жыццё толькі і ездзіў на веласіпедзе. Відаць, выходны дзень не прайшоў для юнака дарма. Адным з першых Мікалай сеў на матацыкл. Запрацаваў матор, і машына, набіраючы хуткасць, імкліва панеслася ўперад.

Усё гэта адбывалася з год таму назад, мінулай вясною. За кароткі час шмат змянілася ў жыцці камсамольца-будаўніка Мікалая Сідаровіча. З кожным днём расло яго спартыўнае майстэрства. Мікалай Сідаровіч быў мулярам, добра працаваў, а вольны ад работы час аддаваў спорту. Ужо летам ён у складзе зборнай каманды «Аўтапрамбуда» разам з вопытнымі матацыклістамі, сярод якіх быў і яго нядаўні настаўнік Пётр Сапрановіч, удзельнічаў у эстафеце.

Пётр Камінскі прышоў на работу ў трэст, не маючы ніякай спецыяльнасці. Ён пачаў асвойваць прафесію медніка, вучыўся складаным працэсам рамонту аўтамашын. Яму даводзілася паяць радыятары, заліваць падшыпнікі, рабіць іншыя складаныя справы. Праўда, спецыялісты падрабязна растлумачвалі яму метад работы, але не заўсёды атрымлівалася так, як трэба. Дапытлівы юнак імкнуўся хутчэй авалодаць майстэрствам. Аднак не дазваляла слабае веданне аўтамашыны.

— Вось калі-б я сам умеў кіраваць аўтамабілем, тады-б справа, пэўна, пайшла весялей, — сказаў неяк Пётр сваім сябрам.

— Пойдзем з намі: не аўтамабіль, дык хоць матацыкл вывучыш, — прапанавалі яны.

— Матацыкл? Наўрад ці дапаможа мне гэта...

Але заняткі ў гуртку захапілі юнака. Уважліва вывучаў ён будову матацыклаў розных марак, слухаў тлумачэнні інструктара аб рабоце рухавікоў унутранага згарання, узаемадзеянні частак машыны, а нарэшце — сеў за руль. І, зразумела, невыпадкова супалі дзве знамянальныя ў жыцці хлапца падзеі. Амаль адначасова яму прысвоілі чацверты разрад медніка і ўручылі правы ваджэння матацыкла. Пётр Камінскі не спыняецца на дасягнутым. Павышаючы сваю кваліфікацыю, ён прадаўжаў заняткі спортам — паступіў у гурток аматараў аўтамабільнай справы.

Матацыклетны і аўтамабільны спорт вельмі папулярны сярод маладых будаўнікоў. Таму пярвічная арганізацыя ДТСААФ не дарма аддае так многа клопатаў стварэнню матэрыяльнай базы. Абсталявана памяшканне для тэарэтычных заняткаў. Ёсць 10 матацыклаў «Масквіч», нядаўна набыта яшчэ пяць машын «М-72» з каляскамі. Не дзіўна, што за два гады [redacted] сотні рабочых авалодалі аўтаматасправай. Выдатна навучыліся вадзіць матацыклы людзі розных прафесій — аўтакаршчык Генадзі Чынёнаў, кладаўшчыца Тацяна Фёдарава, фрэзероўшчыца Ірына Буглак, многія тынкоўшчыкі, цесляры, столяры. Заняткі ў гуртках спрыяюць працоўным поспехам моладзі, садзейнічаюць іх вытворчаму росту. Нядаўна ў гаражы трэста з'явіліся новыя грузавыя аўтамашыны. І тут не доўга задумваліся над тым, каго пасадзіць за руль. Гэтае пытанне вырашылася вельмі хутка. У першы-ж рэйс машыны павялі маладыя грузчыкі Нарановіч, Станкевіч і іншыя, якія атрымалі ў гуртку ДТСААФ спецыяльнасць шафёра трэцяга класа.

Поўнакроўнае, кіпучае жыццё пярвічнай арганізацыі ДТСААФ трэста «Аўтапрамбуд». Цяжка знайсці від спорту, якім не займалася-б тут моладзь. Ёсць выдатныя авіямадэлісты, плаўцы, веласіпедысты. Усімі гурткамі кіруюць вопытныя інструктары. Разметчык Мацвей Казакевіч займаецца з радыёаматарамі, майстар завода металаканструкцый Аляксандр Кулінчык навучае спартсменаў-парашутыстаў, нарміроўшчык Аляксандр Чарвяк і слесар Віктар Лавышэк рыхтуюць стралкоў.

Брыгадзір Уладзімір Працэнка даўно захапляецца водным спортам. Гэта перанялі ў яго многія маладыя будаўнікі. Летам яны ўсе ідуць на раку. Да іх паслуг — 25 шлюпак і мотакацер, зробленыя самімі гурткоўцамі. Мінулае лета прынесла першы поспех аматарам воднага спорту. На гарадскіх спаборніцтвах ДТСААФ каманда аўтапрамбудаўцаў на чале з Уладзімірам Працэнкам у гонках на шасцівёсельных ялах заняла другое месца, уступіўшы толькі фізкультурнікам шарыкападшыпнікавага завода. Між іншым, Працэнка не толькі аматар гэтага спорту, ён выхаваў нямала веласіпедыстаў, пяць ганаровых грамат і дыпломаў заваяваў на матацыклетных спаборніцтвах.

Многа спраў у гурткоўцаў зімой. Не спыняюцца заняткі кожны дзень. Як толькі выпаў першы снег, ажыўлена стала на дарогах вакол пасёлка аўтазавода. Лыжнікі пад кіраўніцтвам інструктара Уладзіміра Шульчанкі развучваюць тэхніку хады на лыжах, рыхтуюцца да кросаў і дальніх пераходаў. У каменным будынку побач са стадыёнам абсталявана добрая лыжная база з гардэробнай, душам, сушылкай.

Калі вам давядзецца пабываць хоць-бы на адной з шматлікіх будоўляў трэста, то ўсюды, сустрэўшыся з перадавіком вытворчасці, вы даведаецеся, што ён-жа і актывіст абароннай работы.

Майстрам на ўсе рукі называюць камсамольца Арсенія Мароза. Сапраўды, ён валодае чатырма будаўнічымі прафесіямі — муляра, тынкоўшчыка, маляра і шкляра, прычым кожную з гэтых работ выконвае бездакорна. Што-ж дапамагло яму набыць сабе звычку і кемлівасць, сілу і вынослівасць? У першую чаргу спорт. Без Арсенія Мароза ніколі не праходзяць у трэсце спаборніцтвы па плаванню, стральбе.

На адной з будоўляў працуюць браты Васіль і Канстанцін Коршыкі. Розныя ў іх спартыўныя схільнасці. Комсорг будаўнічага ўчастка Васіль Коршык, закончыўшы гурток парашутыстаў, паступіў у групу спартсменаў-пілотаў Мінскага аэраклуба, Канстанцін — захапляецца стральбой. Але абодва яны — добрыя муляры, і праца заўсёды спорыцца ў іх руках.

А хто ў трэсце не ведае каранастага белакурага юнака, камсамольца Мікалая Марозава, брыгадзіра трактарнай калоны! Яму даручана вялікая гаспадарка: калёсныя, гусенічныя, дызельныя і тралёвачныя трактары. Яшчэ некалькі год назад Мікалай меў даволі цьмянае ўяўленне аб гэтых машынах. Ён валодаў спецыяльнасцю слесара-інструментальшчыка. Але неўзабаве Мікалай вывучыў трактар, стаў вадзіцелем. Паступова расшыраўся круг ведаў маладога механізатара, ён авалодаў усімі маркамі машын, удзельнічаў у іх капітальным рамонце, праявіў сябе здольным арганізатарам і быў вылучаны брыгадзірам. Малады кіраўнік карыстаецца вялікай павагай у калектыве. Яго абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі транспартнай канторы трэста, а калі камітэт ДТСААФ вырашыў стварыць гурток трактарыстаў, Мікалай Марозаў стаў інструктарам. На заняткі прышлі многія члены



Заняткі гуртка арганізацыі ДТСААФ пры «Аўтапрамбудзе». Кіраўнік гуртка комсамолец М. Марозаў знаёміць слухачоў з маторам пускавога рухавіка трактара.
Фота Ф. Бачылы.

яго брыгады. Іван Сташэнка і Фёдар Хмыз, якія працавалі на калёсных трактарах, вывучылі ў гуртку дызельную апаратуру і зараз пры неабходнасці могуць замяняць сваіх сяброў на больш складаных машынах. Трактарную справу ахвотна вывучаюць многія будаўнікі. Вадзіцелем трактара «ДТ-54» стаў вучань будаўніча-мантажнага ўпраўлення Уладзімір Куракоў. Слесар машынна-пракатнай базы Мікалай Герман, матарыст будоўлі Уладзімір Пятроў і яшчэ сем рабочых, авалодаўшы ў гуртку ДТСААФ спецыяльнасцю трактарыста, цвёрда вырашылі паехаць на пастаянную работу ў МТС, каб быць у першых радах барацьбітоў за выкананне пастановы вераснёўскага пленума ЦК КПСС. Іх просьбу задаволілі.

Мікалай Марозаў не толькі вучыць сваіх таварышаў, але і ўпарта авалодвае ведамі сам, знаходзіць час для фізкультуры і спорту. Ён нядаўна закончыў курсы шафёраў, кіруе таксама гуртком суднаматарыстаў.

Моладзь «Аўтапрамбуда» горача імкнецца да авалодання асновамі ваеннай справы і многімі цікавымі відамі спорту. Пярвічная арганізацыя Добраахвотнага таварыства садзеяння Арміі, Авіяцыі і Флоту няспынна расце, папаўняецца новымі членамі. Іх зараз ужо ў чатыры разы больш, чым было два гады назад. У рабоце патрыятычнай арганізацыі ўдзельнічае кожны трэці будаўнік трэста. Камітэт ДТСААФ, які ўзначальвае інжынер-камуніст Уладзімір Хмяльніцкі, аб'яднаў вакол сябе шматлікі актыў, умела прапагандуе абаронныя і спартыўныя веды сярод моладзі. Рэгулярна наладжваюцца даклады і лекцыі. Апошнія з іх былі прысвечаны слаўнаму баявому шляху Совецкай Арміі, ролі авіяцыі ў Вялікай Айчыннай вайне, выкарыстанню атамнай энергіі ў мірных мэтах і іншым тэмам.

Па-мастацку, з густам афармляюцца вітрыны і фотамантажы на абаронна-спартыўныя тэмы. Для таго, каб наблізіць работу таварыства да моладзі, камітэт стварыў ва ўсіх будаўніча-мантажных упраўленнях і падсобных прадпрыемствах нізавыя арганізацыі ДТСААФ.

Цікавая і змястоўная работа абароннага таварыства пры трэсце «Аўтапрамбуд». Але маладыя патрыёты жадаюць зрабіць дзейнасць арганізацыі яшчэ больш плённай і разнастайнай.

— Чаму-б не заняцца нам конным спортам? — кажа Уладзімір Працэнка. — Для гэтага ёсць усе магчымасці.

— Часцей трэба праводзіць кросы, унутрыклубныя спаборніцтвы, — гавораць другія.

І ўсе яны, безумоўна, маюць рацыю. Улічваючы каштоўныя прапановы, камітэт ДТСААФ дабіваецца новых поспехаў у рабоце арганізацыі.

Маладыя будаўнікі заняты мірнай стваральнай працай. Яны ўзводзяць прыгожыя велічныя будынкі жылых дамоў і культурна-асветных устаноў для працоўных. Але моладзь не забывае аб тым, што імперыялісты імкнуцца распаліць пажар новай вайны і рыхтуюцца да таго, каб любы вораг, які паспрабуе пасягнуць на нашу краіну, атрымаў моцны адпор. У гуртках ДТСААФ юнакі і дзяўчаты авалодваюць асновамі авіяцыйнай, марской, танкавай, артылерыйскай, сапёрнай, санітарнай справы, вывучаюць гісторыю рускага ваеннага майстэрства, з вялікай увагай слухаюць расказы сваіх старэйшых таварышаў па рабоце — дэмабілізаваных воінаў Совецкай Арміі і былых партызан, якія ўдзельнічалі ў баях супраць фашысцкіх захопнікаў. Многія з іх з'яўляюцца актыўнымі кіраўнікамі гурткоў у пярвічнай арганізацыі таварыства, умела прапагандуюць ваенныя веды. Будаўнікі трэста падтрымліваюць пісьмамі сувязь з воінамі Совецкай Арміі. Рабочыя радуюцца поспехам у баявой і палітычнай падрыхтоўцы суднаматарыста Ваенна-Марскога Флота Фарамонава, лётчыка Гардзеева і другіх сваіх таварышаў, з якімі яны раней разам працавалі на будоўлях і займаліся ў гуртках патрыятычнага таварыства.

Выхоўваць сябе мужнымі, смелымі і адважнымі, быць заўсёды гатовымі да абароны любімай Совецкай Радзімы — з такімі думкамі жывуць і працуюць аўтапрамбудаўцы.

**Аляксандр ЖАРАЎ**

# ЗНАМЯНАЛЬНЫ ДЗЕНЬ

Нататкі ўдзельніка III з'езда РКСМ

У шматлікіх дэталях успамінаецца мне знамянальны дзень гісторыі камсамола, дзень адкрыцця III з'езда РКСМ. Гэта было 2 кастрычніка 1920 года.

Халодныя прыцемкі апускаліся на Маскву, хмурую, суровую. На дзвярах Ласкутнай гасцініцы (каля Ахотнага рада) — адозвы, пастановы аб барацьбе з разрухай, аб пагрозе сыпна-тыфозных захворванняў.

А па вуліцы — натоўпы моладзі, якая крочыць бадзёра, весела, з гаворкаю, а то і з песняй.

Група дэлегатаў ішла знізу ўверх па цяперашняй вуліцы Горкага. Многія загадзя перайшлі на правы бок, пераскокваючы цераз ямы і рытвіны вузкага камяністага бруку, загрувашчанага да таго-ж трамвайнымі пуцямі.

Мы супыняліся каля крамных вітрын, ператвораных у вітрыны плакатаў. Плакаты ў прозе і ў вершах заклікалі біць Врангеля.

— «Ці запісаўся ты добраахвотнікам?» — пытаўся ў кожнага чырвоны воін з яркага плаката. На гэта законнае пытанне кожны з нас збіраўся даць варты адказ на самым з'ездзе. Так павялося ўжо ў тыя часы ў камсамоле.

Каля плошчы Пушкіна нехта заспяваў «Смело, товарищи, в ногу». А на павароце на Малую Дзмітраўку (цяпер вуліца Чэхава) быў распачаты заліхвацкі танец, па ходу якога гучэлі словы самадзейнага прыпева да перапробленай песні «Вдоль да по речке»... Спявалі ўсе. Спявалі і мы, будучыя камсамольскія паэты-песеннікі. Песня была спадарожніцай камсамола заўсёды — і ў дні радасцей, і ў дні горычы. Холад быў, голад, — а мы спявалі, аддаючы перавагу таму, што весялей. Гэта ўласцівасць юнацтва, якое глядзіць наперад. Нездарма спявалася ў прыпеўцы:

«Нам, солдатам Ленина,
Унывать не велено».

Каля самых дзвярэй дома № 6, дзе збіраўся з'езд, у той момант, калі стаўпіліся ўсе пры праверцы дакументаў, балтыйскі матрос узняўся і на ўсю вуліцу басам гукнуў урывак з «Левага марша» Маякоўскага:

«Там, за горами горя,
Солнечный край непочатый»...

Комсамолец у ватніку, мабыць, дэлегат з «хлебных краёў» дэманстрацыйна дастаў з торбы добры акраец хлеба і ўручыў матросу. Матрос пацалаваў хлопца.

— Дзякую, браток! Гэта будзе ласунак для ўсёй нашай дэлегацыі...

Хтосьці пажартаваў пад агульны рогат:

— Гэта пакуль не сонечны край, але непачаты!..

Зала была перапоўнена.

Пасля выбараў прэзідыума пачаліся прывітанні. Пра комсамол не так ужо шмат вядома было тады. І прывітанні ў яго адрас былі маналікія. Комсамольцам даводзілася самім папаўняць гэты «недахоп».

Мы ад сэрца віталі адзін аднаго, дэлегацыя дэлегацыю. Украінцы віталі масквічоў. Следаваў адказ. Затым уральцы перадавалі паклон піцерцам, сібіракі — беларусам, дэлегаты Сярэдняй Азіі — дэлегатам Паволжжа.

І ва ўсіх прывітаннях моцна гучэлі словы віншавання ў гонар партыі рабочага класа, на вернасць якой комсамол даваў прысягу з першых сваіх крокаў. Сэрцы рэвалюцыйнай моладзі, усхваляваныя Вялікім Кастрычнікам, напоўнены былі цудоўнай надзеяй у будучыню. І любая надзея, любая мара нашага юнацтва мела трывалую аснову. Гэта — сіла і мудрасць Комуністычнай партыі, гістарычная яснасць высокародных яе шляхоў.

Розум партыі, заснаванай Леніным, — вось светач, без якога самыя добрыя нашы парывы былі-б дарэмнымі, пустымі. Нам давялося-б блукаць упоцемках, збіваючыся з вернай дарогі...

Гарачую прамову на гэтую тэму сказаў светлавалосы хлопец ад імя, здаецца, смаленскай дэлегацыі. Воплескі, якія выбухнулі ў сярэдзіне гэтай прамовы, раптам узмацнелі і ператварыліся ў доўгую авацыю.

Тут ужо смаленскі хлопец быў не пры чым. Ён зразумеў гэта і ціхенька пакінуў трыбуну. Мабыць, і ён заўважыў Леніна, які падышоў да стала прэзідыума. Ленін увайшоў у асеннім паліто, расшпіленым, з вузкім аксамітным каўнерыкам, у кепцы. Скінуў паліто і кепку, паклаў іх на крэсла з краю за сталом. Пагаварыў крышку з некім у прэзідыуме і нахіліўся над кнігай ці над паперамі...

Ёсць адна вядомая карціна аб III з'ездзе РКСМ. Там, на ёй, непадалёчку ад стала прэзідыума намаляваны чорны бліскуча адпаліраваны раяль. На самай справе ніякага раяля не было і не магло быць, гэта фактычная пагрэшнасць. Дзіўна гэта для 1920 года!.. Стаялі там, воддаль ад Леніна, канцылярскія столікі для сакратароў. Стэнаграфістак не было. Зала асветлена была досыць цьмяна. Не дзіўна, што дзесяткі комсамольцаў з дальніх радоў рынуліся па праходах да сцэны, каб зблізку ўбачыць Владзіміра Ільіча. Дзіўным было другое: многія, і я ў тым ліку, хутка змаглі апынуцца на сцэне. А некаторыя нават амаль побач з Леніным.

Ён у гэтыя хвіліны штосьці старанна пісаў на паперы. Здавалася, што ні авацый, ні воклічаў «ура» не чуе Ільіч і, на шчасце для нас, не заўважае сапраўднага гармідару, што ўчынілі мы, без дазволу перабраўшыся з залы на сцэну. Учынак гэты мы зрабілі неяк міжвольна. І зрабілі яго, вядома, не таму, што ў зале было цеснавата, а на сцэне больш вольнага месца...

Владзімір Ільіч узняў галаву і, усміхаючыся, павольна абвёў позіркам усіх нас, няпрошаных гасцей прэзідыума...

Ленін падышоў да самага краю сцэны. Трыбуну ён выкарыстаў толькі пасля выступлення, калі адказваў на пытанні.

Досыць доўга не давалі Ільічу пачаць прамову новыя выбухі захаплення і радасці, групавыя воклічы, прывітанні ў гонар Комуністычнай партыі, у гонар яе заснавальніка і



**Выступленне В. І. Леніна на III з'ездзе камсамола.**
Фрагмент з карціны Б. Іагансона, Д. Тэгіна, Н. Файдыш-Крандыеўскай і Н. Чэбакова.

правадыра. Два ці тры разы спявалі «Інтэрнацыянал».

Владзімір Ільіч, адышоўшыся ўбок, спяваў разам з намі.

Потым ён пахадзіў па краі сцэны. Супыніўшыся, паківаў пальцам у разбушаваную залу. Унушальна пагразіў, так што цішыня пачала нібы ўсталёўвацца. Але раптам зала страсянулася выбухам смеху! Ажно Владзімір Ільіч, хоць пальцам і строга пагразіў, але вытрымаць да канца строгасці не змог — усміхнуўся. А ўсмешка яго была асаблівай, такой, што захапіла ўсіх. Яна, быццам іскра, запаліла радасным полымем усю залу. І ператварылася ў дружны, нястрымны пошчак юнацкага, прамяністага смеху, што было яшчэ адным сведчаннем нашага невыказна-шчаслівага настрою, выклiканага сустрэчай з родным і вялікім Леніным, які так ахвотна падзяліўся з моладдзю яе настроем.

Але вось — Владзімір Ільіч дастаў з кішэні камізэлькі гадзіннік, узняў яго над галавой і многазначна паказаў пальцам на цыферблат.

Гэта было ясна без слоў.

Настала поўная цішыня. І мы пачулі голас Леніна, які загучаў зусім не ўздымна, а спакойна, мякка, бадай, нават некалькі па-дамашняму, быццам у гутарцы.

Па сутнасці характар прамовы Леніна на III з'ездзе быў сапраўды гутаркай, размовай сур'ёзнай і сардэчнай аб самым галоўным у жыцці маладых пакаленняў, што закліканы будаваць і пабудаваць грамадства, пра якое маглі толькі марыць самыя светлыя галовы чалавецтва.

— Таварышы, мне хацелася-б сёння пагутарыць аб тым, якія асноўныя задачы Саюза Комуністычнай Моладзі.

Такімі словамі пачалася ленінская прамова. А калі было сказана, што асноўныя задачы моладзі можна выказаць адным словам, усе здзівіліся. І здзіўленне наша вырасла яшчэ больш, калі высветлілася, што гэта адно слова: вучыцца... Вучыцца??? А як-жа быць з Врангелем, які ў тыя дні яшчэ сядзеў у Крыме? Як быць з пілсудчыкамі, што гаспадарылі ў тую пару на нашай зямлі? Мы былі ўпэўнены, што па прыкладу мінулых комсамольскіх з'ездаў і канферэнцый наш III з'езд у поўным саставе накіруецца на дапамогу тым, хто павінен дабіць упамянутых і неўпамянутых узброеных ворагаў совецкай улады.

Ленін нічога не сказаў аб гэтым. Значыць, ён не сумняваўся ў тым, што ворагі будуць разгромлены і без нашай непасрэднай дапамогі, значыцца, партыя падрыхтавала ўжо гэты разгром.

Партыя глядзіць наперад, яна бачыць далей, чым мы. Перад поглядам Леніна — мірная пара, новая паласа жыцця і новыя задачы.

Ленін сказаў, і гэта прагучэла як пахвала, што мы цудоўна зразумелі сваю комсамольскую задачу у справе падтрымкі рабоча-сялянскай улады ў яе ўзброенай барацьбе супраць капіталістычных разбойнікаў. І ён дадаў, што цяпер гэтага недастаткова. Цяпер трэба зразумець новыя задачы, якія стаяць на чарзе: гаспадарчыя, будаўнічыя, культурныя. Мала гэтага: трэба неадкладна заняцца вырашэннем гэтых складаных задач.

Мы, прадстаўнікі першага пакалення комсамольцаў, дзеці сялян і рабочых, горача спявалі аб тым, што:

«Мы наш, мы новый мир построим.
Кто был ничем, тот станет всем».

Справа партыі і інтарэсы народа патрабавалі, каб мы сталі інжынерамі, пісьменнікамі, вучонымі, музыкантамі, педагогамі, мастакамі. І Владзімір Ільіч даў поўную яснасць у пытанні адносін да старой і ў пабудове новай культуры. Ён глыбока і грунтоўна растлумачыў нам, што без трывалых ведаў і крытычнага засваення культуры мінулага ніякай новай культуры не пабудуеш.

Гэта мы зразумелі з прамовы Леніна. У імя нашага комуністычнага заўтра трэба нам старанна папрацаваць, каб авалодаць усім багаццем ведаў, якія прыдбала чалавецтва за ўсю яго гісторыю. Без гэтага нельга навучыцца комунізму, нельга паспяхова будаваць новае грамадства. Так вучыў Ленін, абураючыся адначасова на кніжнае, зазубранае засваенне таго, што напісана пра комунізм.

Ленін заклікаў да спалучэння тэорыі з практыкай, да таго, каб непарыўна звязваць кожны крок выхавання і вучобы з паўсядзённай барацьбой працоўных, з жыццём і клопатамі народа.

Гэтую думку Владзімір Ільіч дадаткова падкрэсліў, адказваючы на адно з пытанняў:

Пытанне было такое:

«Таварыш Ленін! Скажыце, а чаму ў вёсцы няма калёснай мазі?»

У зале многія засмяяліся, знаходзячы пытанне не да месца і наіўным.

А Владзімір Ільіч сказаў:

— Надта важнае пытанне: яно, дарэчы, мае прамыя адносіны да размовы аб тым, якім павінен быць комуніст... Комуніст павінен умець адказаць на пытанне аб адсутнасці на сяле калёснай мазі, цвікоў, газы, сярнічак. Мала таго! Комуніст абавязаны дапамагчы ў наладжванні нашай вытворчасці, у тым ліку і вытворчасці калёснай мазі... Валодаючым тэорыяй, не адарваным ад жыцця, ад патрэб народа, — вось якім павінен быць комуніст!..

Не адно, а некалькі пакаленняў комсамольцаў, совецкай моладзі расло, вучылася, дабівалася поспехаў і перамог, кіруючыся мудрымі парадамі Леніна, парадамі адносна комуністычнага выхавання, адносна спаборніцтва, маралі, адносін да грамадскай працы.

Указанні Леніна, парады яго, звернутыя да моладзі, склалі аснову праграмы комсамола, сталі ў той-жа час каштоўным наказам у дарогу кожнай дзяўчыне, кожнаму юнаку, які ўступае ў жыццё, каб зрабіць яго небывала прыгожым.

Ленінскі наказ у дарогу, адрасаваны ўдзельнікам III Усерасійскага з'езда комсамола, захаваў усё сваё шырокае значэнне і для ўдзельнікаў XII з'езда ВЛКСМ, якія з'яўляюцца цяпер слаўным маладым пакаленнем стойкіх абаронцаў і працалюбівых змагароў за росквіт совецкай Радзімы, для новага пакалення будаўнікоў комунізма, для беззаветных памочнікаў Комуністычнай партыі.

**Міхась КАЛАЧЫНСКІ**

## На плошчы ў Сталінградзе

Плошча. Ветры шумяць
Аб бяссмерці салдат, —
Яны, мужныя, спяць,
Сніцца ім Сталінград.
Іх ахоўвае сны
Над зглоўем граніт.
Побач — кветкі. З вясны
Льецца чысты блакіт.

К ім плыве ад ракі
Плёскат волжскай вады.
На дасвецці гудкі
Іх гукаюць заўжды:
— Ясны ранак настаў,
Час на працу, сябры, —
Плавіць цвёрдую сталь
І збіраць трактары!

Толькі не... не паднясць
Іх на ногі ніяк —
Моцна воіны спяць
Пасля грозных атак.
А мо' чуюць у сне
Пераклічку гудкоў,
Шум вады па вясне,
Подых цёплых вятроў.
І мо' бачаць праз сон,
Як рунеюць палі,
Як нясе Волга-Дон
Цераз стэп караблі.

Мір...
Любілі яго
Яны сэрцам усім,
Год па сто для таго
Жыць хацелася ім;
Марыць, свет абнаўляць,
Песні шчырыя пець
І сыноў гадаваць,
І не думаць пра смерць.

Жыць і жыць па сто год! —
Эх, і мара была! —
Ды вайна свой паход
Па зямлі пачала.

Падняла тады іх
Наша партыя ў бой,
Іх, сыноў дарагіх,
Павяла за сабой
З гарадоў і станіц
Родны край бараніць —
Край шчаслівых надзей,
Светлых песень, зарніц,
Што хацеў пагасіць
У імгле ліхадзей.

Мужна неслі яны
Роднай партыі сцяг,
Адстаялі яны
У суровых баях
Лёс людзей, Сталінград,
Мір, вясну на зямлі...
Толькі самі назад
Не прышлі, не прышлі...

З той пары і шумяць
Аб іх славе вятры.
Кветкі ўсталі. Чуваць
Гул гудкоў на зары.
Ахінае блакіт
Непрабудныя сны іх.
Мір, што імі здабыт,
Славяць працай сыны іх.
Сталі справы іх помнікам
Неўміручым бацькам:
Радавым і палкоўнікам,
Пехацінцам і коннікам —
Сталінградскім байцам.

**Артур ВОЛЬСКІ**

## Браты

Я беларус, а ты — грузін.
Мы з розных месц краіны.
Але і шлях у нас адзін,
І лёс у нас адзіны.

Ты арлянём у скалах рос
Па-над Курой свавольнай,
А я — у засені бяроз
Ля Свіслачы прывольнай.

Ты закаханы ў высі гор,
Што ўзняты за аблокі,
А мне мілей сасновы бор,
А мне мілей жытоў прастор,
Нібы разліў шырокі.

Але аднолькавыя ў нас
Цяльняшкі ды бушлаты.
І ў іх падобны мы якраз,
Бы родны брат на брата.

Ідуць у мора караблі.
Плывуць насустрач зоры.
Браты — сыны адной зямлі —
Мы побач у дазоры.

В. МАЕЎСКІ

# У МАСКВУ, НА З'ЕЗД

Нарыс

Як толькі Іван Захаравіч пераступіў парог хаты, Аксіння Раманаўна накінулася на яго з папрокамі. Яна падбірала самыя крыўдныя словы, каб толькі дапячы старому.

— Ці-ж ты бацька сваёй дачцы? Вотчым так не зробіць, — крычала яна. — Маладыя гады загубіць хочаш. Марыся цяпер свету не ўбачыць. Восем год вучылася дзяўчына, а ты яе на ферму працаваць паслаў!

Іван Захаравіч з дакорам пагледзеў на жонку.

— Дарэмна ты, Аксіння, хвалюешся і на мяне крычыш! Я тут не пры чым. Сама яна без нас вырашыла, як лепш зрабіць. Па душы, выходзіць, ёй гэтая работа, няхай працуе. Немалая ўжо, семнаццаты год ідзе. Не нам з табой перашкаджаць. Адно скажу табе: правільна зрабіла наша Марыся.

Аксіння Раманаўна ў душы і сама згаджалася з рашэннем Марысі. Нават тайком думала, што Марыся ўся ў яе — такая-ж неспакойная. Але так адразу здацца мужу не хацела.

— А што людзі скажуць? Ці падумаў ты аб гэтым? Скажуць, вучылася Івана Корсака дачка, а цяпер разам з Васюковічыхай, непісьменнай жанчынай, свіней даглядае. Сорам на ўсю вёску. Што яна, горш за другіх? Не можа, як другія, у канцылярыі сядзець? Пасля сямігодкі ёй прапанавалі рахункаводам у калгасе працаваць. Дык гэта-ж год назад! Цяпер-жа Марыся восем класаў закончыла.

Іван Захаравіч стараўся якнебудзь перавесці размову на другую тэму. Але жонка прадаўжала сваё. Выручыла Марыся, якая неўзабаве прышла з канцылярыі. Расчырванелая, жыццерадасная, яна з захапленнем пачала расказваць аб тым, як яе сустрэлі ў праўленні калгаса, як Рыгор Кузьміч Кадука, калгасны старшыня, даведаўшыся аб яе жаданні пайсці загадчыкам свінафермы, сказаў:

— Гэта ты добра прыдумала. На свінаферме пісьменны чалавек патрэбны. А ў нас там абы хто працуе, таму і справы дрэнныя. Страты нясем. На цябе ўся надзея. Выручай, Марыя Іванаўна! Калгаснікі табе ўдзячны будуць. Калі спатрэбіцца дапамога, прыходзь — дапаможам.

— Мне было сорамна, што звычайнае пажаданне, можна сказаць, абавязак мой, лічаць ледзь не геройствам. Старшыня нават па бацьку назваў, — гаварыла Марыся. — Вось паснедаю ды і пайду ферму прымаць.

Маці, падаючы на стол, разпо-разу ўздыхала, быццам расставалася са сваёй дачкой на доўгія гады. Толькі бацька, як заўсёды, быў вясёлым і нават крыху ўзнёслым. Калі Марыся сабралася ісці на ферму, нават кароткую прамову сказаў, ці, як ён гаварыў, наказ зрабіў.

— Глядзі, дачушка, сумленна працуй, каб бацькам сорамна не было. Мы, Корсакі, такі народ: калі за што ўзяліся, дык не адступаем.

Марыся Корсак разумела, што яна сустрэне нямала цяжкасцей, што нялёгка будзе працаваць, наводзіць парадкі. Але тое, што ўбачыла яна на ферме, было намнога горшым, чым яна сабе ўяўляла. Памяшканні для свіней да зімы не былі прыстасаваны. Кармоў нарыхтавана мала. А галоўнае, не было працоўнай дысцыпліны. Свінаркі, калі хацелі, тады і прыходзілі на работу, як хацелі, так і працавалі. «Вось чаму і парадку няма на ферме, — падумала Марыся, прыняўшы работу ад былога загадчыка фермы. — Трэба прымаць тэрміновыя меры, інакш і тое, што ёсць, за зіму можам страціць».

Пытанне аб становішчы на свінагадоўчай ферме можна было неадкладна паставіць на абмеркаванне праўлення калгаса. Але Марыся вырашыла пагутарыць спачатку з кожнай свінаркай.

Вечарам усе сабраліся тут-жа, на ферме. Сядзелі хто на чым, многія сталі.

— Давайце пагаворым пра нашы справы. Не падабаюцца мне такія парадкі...

Першай, як і заўсёды, выступіла Зоня Васюковіч, ці, як звалі яе на вёсцы, Васюковічыха. Злосна і пагардліва пагледзеўшы на Марысю, яна пачала з таго, чым закончыла толькі што гаворку загадчык фермы — з новых парадкаў.

— Новыя парадкі, — гэта, галубка, для цябе, а не для нас, — яна глянула на астатніх, стараючыся знайсці ў іх падтрымку. Некаторыя ўсміхнуліся. — Ты нам свае парадкі не ўстанаўляй! Калі хачу, тады і кармлю свіней. За мной яны замацаваны, я і адказваю за іх. Знайшлася вучыць! Я, галубка, за сваё жыццё, ведаеш, колькі свіней выгадавала! А ты вучыць мяне збіраешся!

Пасля Васюковічыхі ні адна свінарка не захацела гаварыць.

«Зжыліся з непарадкамі і лічаць, што так і павінна быць... Але-ж не ўсе такія. Ёсць і добрасумленныя людзі, — падумала Марыся. — Трэба толькі правільна падыйсці да кожнай. Тады больш чаго і мне і ім будзе зразумела». Яна звярнула ўвагу на Дуню Вайтуховіч, якая моўчкі сядзела на скрыні.

— А чаму, Дуня, у цябе свінні лепш укормленыя, чым у Васюковіч? Ты-ж маладзейшая за яе.

— Таму, што яна больш гаворыць, чым працуе, — адказала Дуня. — Ды і другім працаваць не дае. Колькі яна ні дзяжурыла на кухні, заўсёды жывёле кармы ў тэрмін не паспявалі. Тады кожная з нас абуралася, а цяпер маўчым. Па-новаму, ці па-стараму працаваць — гэта ўжо сама вырашай. Але каб кармы ў тэрмін былі... Інакш я цярпець гэтага не буду.

— Кармы ў тэрмін будуць, — адказала Марыся і тут-жа дадала: — А хто не хоча працаваць на ферме, можа сёння-ж падаць заяву ў праўленне.

Неўзабаве адбылося паседжанне праўлення калгаса. Абмяркоўвалі мерапрыемствы па далейшаму развіццю калгаснай жывёлагадоўлі. Камсамолка Марыся Корсак расказала аб сваіх першых днях работы на ферме і патрабавала ад праўлення, каб на ферме былі ўстаноўлены кормазапарнікі, каранеклубнемыйка, каб было зроблена ўкамплектаванне кадраў жывёлаводаў і арганізавана заатэхнічная вучоба.

Тады-ж па настойліваму патрабаванню Марысі з работы было звольнена некалькі нядбайных свінарак. Першай між іх аказалася і Васюковічыха. Калгаснікі прапанавалі, каб для работы на фермах пасласць камсамольцаў і перадавую калгасную моладзь.

Марыся сама павяла работу сярод дзяўчат. Яна сустракалася з імі дзе-небудзь на вячорках і заводзіла размову аб рабоце знатных жывёлаводаў, расказвала аб сваіх планах.

— Ты, відаць, таксама Люсковай хочаш быць, — смяяліся дзяўчаты. — Другія парадкі на ферме заводзіш. Глядзі, ужо цэментуюць падлогу ў свінарніках. Плануюць будаваць вадакачку. На такой ферме ды з такім загадчыкам і папрацаваць нядрэнна.

— Хочаце, будзем разам працаваць, — адгукнулася Марыся. — Работы ў нас хопіць. Адкіньце вы прэч гэтую думку, нібы праца свінаркі ганебная. Гэта ад старога ладу. Цяпер праца жывёлавода самая пачэсная. Я неяк падлічыла, што свінаферма можа прыносіць вялікі прыбытак калгасу. Трэба толькі сумленна адносіцца да працы.

— Давайце, дзяўчаты, пойдзем працаваць да Марысі, — звярнулася Ніна Жук да Ліды Супруновіч і Вольгі Канавальчык і, жартуючы, дадала: — Яна нам па-сяброўску дасць больш лёгкую работу.

— Будзеш на ферме працаваць, дык хлопцы не пакахаюць, — жартам на жарт адказала Ліда.

— Таннае каханне, значыць, у такога хлопца. Такога і любіць не варта, — сказала Марыся.

... Прайшоў год. Марыся з дапамогай камсамольскай арганізацыі, якая накіравала працаваць на свінаферму пяць камсамолак, дасягнула першых і нядрэнных вынікаў у працы. Свінагадоўчая ферма прынесла калгасу 30 000 рублёў прыбытку. Сума невялікая, калі параўнаць з другімі калгасамі, але гэта было значным крокам наперад.

Першы поспех акрыліў маладога загадчыка фермы і яе сябровак. Днямі яна працавала разам з імі, а па вечарах рабіла розныя вылічэнні, вучылася.

Аднойчы на праўленні калгаса, якое павінна было зацвердзіць кармавы баланс, паміж старшынёй і Марысяй Корсак узнік канфлікт, «тушыць» які вымушаны былі ў раёне.

— Ты што-ж, Марыся, толькі аб сваёй ферме дбаеш? — накінуўся на загадчыка фермы Рыгор Кузьміч, прачытаўшы кармавы баланс. — Усю бульбу сабе забіраеш!

— Думаць аб усім калгасе — твая справа, Рыгор Кузьміч. А мне трэба аб свінагадоўчай ферме клапаціцца. Паложана на дзень трыста кілаграмаў бульбы — і давай яе.

— Хопіць і дзвесце кілаграмаў. Мне каровам бульба патрэбна. Сакавітых кармоў сёлета мала.

— Заўсёды ты, Рыгор Кузьміч, пасля думаеш. А чаму не закладваеце сілас? Прападае бацвінне, бульбоўнік. Гас-па-да-ры!

Старшыня настаяў на сваім, і рацыён свіней быў зменшаны.

Назаўтра Марыся пайшла ў раён.

— Марыся такая, што ўсяго даб'ецца, — гаварылі дзяўчаты-свінаркі.

І яна дабілася.

Праз год на камсамольскім сходзе Рыгор Кузьміч прызнаў сваю памылку.

— Настойлівая дзяўчына, такія нам і патрэбны, — сказаў ён тады, калі кандыдатуру Марысі Корсак

**Загадчык свінафермы сельгасарцелі імя Будзённага Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці Марыся Корсак** (трэцяя справа) **гутарыць з групай дэлегатаў VII абласной камсамольскай канферэнцыі.**
Фота В. Германа. (Фотахроніка БЕЛТА.)



намецілі ў спіс для тайнага галасавання на пасаду сакратара камсамольскай арганізацыі.— Свайго дабілася. Маю неправату даказала. Прыбытак ад свінагадоўлі павялічыўся ў тры разы супраць мінулагодняга. Цяпер кожнаму зразумела, хто быў праў.

Пахвала Марысі — гэта пахвала і яе сяброўкам,— комсамолкам Ніне Жук, Лідзе Супруновіч, Лідзе Бандарук, Вользе Канавальчык і Зіне Мацанюк. Яны ва ўсім бяруць прыклад з Марысі.

... Верасень мінулага года Марысі і яе сяброўкам прынёс многа радасці. Гістарычныя рашэнні пленума Цэнтральнага Камітэта нашай партыі адкрылі для іх новыя далягляды. Комсамолка Корсак разам са сваімі сяброўкамі з першых-жа дзён уключылася ў актыўную барацьбу за выкананне гістарычных рашэнняў нашай партыі. І не толькі яна адна са сваімі сяброўкамі. Марыся вядзе за сабой і ўсю комсамольскую арганізацыю калгаса, якая пад яе кіраўніцтвам зрабілася важаком усёй моладзі.

... Смуглявая, з чорнымі вачыма, дзяўчына паднімаецца на трыбуну Брэсцкай абласной комсамольскай канферэнцыі. Яна шчыра і проста апавядае аб калгасных справах, аб тым, як комсамольцы і моладзь сельскагаспадарчай арцелі імя Будзённага жывымі, канкрэтнымі справамі адказваюць на гістарычныя рашэнні вераснёўскага пленума, як, не шкадуючы маладых сіл і энергіі, яны змагаюцца за атрыманне высокіх ураджаяў і развіццё грамадскай жывёлагадоўлі.

І дэлегаты добра ўявілі сабе тых, аб справах якіх расказвае гэтая смуглявая дзяўчына: майстроў агародніцтва Васіля Аплейчука, Аляксея Клюкача, Івана Панасевіча, якія ўзначалілі работу па будаўніцтву цяпліц і прыгатаванню торфаперагнойных гаршочкаў, жывёлаводаў Любоў Каркозу, Аляксандру Ярамчук і многіх другіх, якія паспяхова працуюць на калгасных фермах.

І калі Марыся, расказаўшы пра справы на сваёй ферме, закончыла прамову словамі: «Прафесія жывёлавода — пачэсная, ганаровая прафесія!» — многія з прысутных у гэтую хвіліну горача пажадалі быць такімі, як яна, гэтая простая дзяўчына з Калядзіч, што пад Пружанамі. А калі была ўнесена прапанова паслаць ад Брэсцкай комсамольскай арганізацыі дэлегатам на XII з'езд ВЛКСМ Марысю Корсак, удзельнікі сустрэлі яе бурай апладысментаў.

...У той вечар на кватэры Івана Корсака сабралася многа моладзі. Прышлі марысіны сяброўкі па рабоце, комсамольцы з паляводчых брыгад.

— Як мы рады за цябе, Марыся! — гаварылі дзяўчаты.

— У Маскву, на з'езд! Гэта — шчасце.

— Заслужыла, вось і шчасце,— адказала Ніна Жук.

— Напэўна, у Крэмлі пабудзеш.

— Можа, выступаць давядзецца. Тады скажаш, што мы не падвядзем.

— Не, дзяўчаты, выступаць мусіць, не прыдзецца. Там-жа столькі дэлегатаў. Ды і справы ў многіх лепшыя, чым у нас,— адказала Марыся.

— А ты ўсёроўна перадай там, у Крэмлі, што мы зробім свой калгас моцным. Няхай спадзяюцца на нас. Так і скажы, Марыся!

УЛ. ДАДЗІОМАЎ

# Новыя будні

Нарыс

Расказ пра гэта варта пачаць з невялікага экскурса ў мінулае. Для параўнання, як любіць гаварыць аграном Казімір Міхайлавіч Дзяўго.

Пры панскай Польшчы ўсе землі соўгаса «Рось» належалі магнату Патоцкаму. У графа быў не адзін маёнтак, але найбольшай пашанай карысталіся тыя, што стаялі па абодва бакі рэчкі Рось. У цэнтры мястэчка з той-жа назвай, атулены магутнымі дубамі, узвышаўся прыгожы палац. У ім жыў граф. І палац, і парк, і землі належалі графу. Людзі графу не належалі, яны лічыліся вольнымі. Але якая ўжо там воля, калі кругом у даўгах, калі арэш графскую зямлю!

Так цягнуліся доўгія гады, пакуль не быў змецены ўстаноўлены графамі парадак. І вось цяпер на месцы маёнтка — совецкая гаспадарка, соўгас «Рось».

...Дакладна цяжка сказаць, хто першым з экскурсантаў назваў соўгас «Рось» беларускім «Караваевам». Але назва запомнілася, і Аляксандра Фёдараўна гаворыць аб гэтым з гордасцю.

Аляксандра Фёдараўна Зайцава — заатэхнік соўгаса і, як хтосьці жартам сказаў, штатны бібліёграф «Росі», экскурсавод. Ёй часцей за другіх даводзіцца паказваць гаспадарку шматлікім наведвальнікам соўгаса. Вось і цяпер мы ідзем з Аляксандрай Фёдараўнай па жывёлагадоўчых фермах і слухаем яе расказ аб тым, што было, што ёсць цяпер.

Аляксандра Фёдараўна — адзін са старэйшых работнікаў соўгаса. Як толькі адгрымелі баі, яна разам з мужам Казімірам Міхайлавічам Дзяўго прыехала аднаўляць гаспадарку. Яе прызначылі старшым заатэхнікам, яго — галоўным аграномам.

— Цяжкі быў час,— гаворыць Аляксандра Фёдараўна.— Соўгас толькі арганізаваўся. Усё разбіта. Помню, задумаў муж агледзець гаспадарку. Выбраў найлепшага каня і паехаў на ўчастак. Ды так і не даехаў, бо прыстаў конь. Хоць сам пад яго падлазь і цягні ў хлеў. Вось такімі былі мы ў той час багацеямі. Толькі марыць маглі аб лепшым. Цяпер-жа — глядзіце!

Агляд жывёлагадоўчых памяшканняў мы пачалі з кароўніка. Нас, экскурсантаў, сабралася некалькі чалавек. Народ неспакойны, усяму здзіўляецца.

— Вось гэта каровы! — выказвае здзіўленне мой сусед.— Такая дасць літраў трыццаць малака, а то і больш.

Аляксандра Фёдараўна папрасіла:

— Вы, калі ласка, уголас не здзіўляйцеся...

Сказала і чамусьці збянтэжылася. Перахапіўшы здзіўлены позірк экскурсанта, растлумачыла:

— Даяркі не любяць, каб кароў хвалілі... Ад старога гэта ў нас засталося. Гэта ды яшчэ бярозавая алея. Я вам пазней раскажу, у чым тут справа...

Хоць мы паабяцалі не вельмі бурна праяўляць сваё захапленне, аднак час-ад-часу чуліся ўсхваляваныя галасы, сыпаліся пытанні.

Каровы былі сапраўды добрыя. Усе аднай масці — цёмныя з белымі плямамі, усе адна ў адну — вялізныя, укормленыя. Сапраўды — малочная фабрыка! Ды і сам кароўнік — светлы, чысты — нагадваў хутчэй цэх, чым хлеў. Усё тут механізавана. Злева, са спецыяльнага ўглыблення, даносіцца гул матораў. Там абсталяваны кормацэх. Уся нарыхтоўка кармоў робіцца машынамі—кормазапарнікамі, драбілкамі, мыйкамі.

У кароўніку ва ўсіх напрамках вісяць лініі падвеснай дарогі. Калі настае час кармлення, кармы ў ваганетках падаюцца да кармушак. Для зручнасці зроблены спецыяльныя пераключальнікі, ваганетку можна накіроўваць у любым напрамку.

Аляксандра Фёдараўна націснула на рычаг, паказала, як пераключаюцца ваганеткі. Расказвае яна аб усім ахвотна, хоць і не ўпершыню прыходзіцца ёй аб гэтым гаварыць. Прыводзіць лічбы, параўнанні.

У кароўніку светла, чыста і ціха. Тут пануе той парадак і спакой, якія заўсёды прыкметны ў добра наладжанай гаспадарцы. Даяркі працуюць без мітусні. Кармленне і даенне кароў праводзяцца ў адну і тую-ж гадзіну, рацыён выпісаны ў спецыяльныя таблічкі — усё разлічана дакладна, разумна.

— А зараз пройдзем у цялятнік,— запрашае Аляксандра Фёдараўна.

На дварэ патрэсквае мароз. Ён шчыпле твар, вушы.

— Холадна,— кажа Аляксандра Фёдараўна.— А цялятнік мы не ацяпляем. Па-караваеўску робім — з першых дзён загартоўваем цялят, да холаду прывучаем.

Аб гэтым таксама было цікава паслухаць, але той-жа неспакойны наведвальнік, што больш за ўсіх дапякаў заатэхніку пытаннямі і часцей за другіх парушаў

Генадзі Калінскі нядаўна быў у Мінску. З сталіцы ён вярнуўся з падарункам: прывёз жонцы шаўковую сукенку.



цішыню здзіўлена-ўзнёслымі воклічамі, перабіў Зайцаву.

— Аляксандра Фёдараўна, вы-ж нам збіраліся расказаць, чаму даяркі не любяць, каб кароў хвалілі.

— Што-ж, можна расказаць. Я ўжо гаварыла, што гэта ад старога ладу ў спадчыну перайшло. Даяркі нашы — работніцы добрыя, старанныя. Тут у іх праяўляюцца новыя адносіны да працы. А вось наконт забабонаў — некаторыя вераць. Спачатку, як пачалі да нас экскурсанты ездзіць, ледзь да канфузу не даходзіла. Пройдзе праз кароўнік экскурсія — надоі зніжаюцца. Зразумела, каровы хвалююцца, парушаецца рэжым, таму і надоі меншыя. Спачатку асаблівай увагі на гэта не звярталі. Але неяк дэлегацыя з калгасаў прыехала. Быў сярод гасцей адзін стары з тых, што абавязкова павінны ўсё сваімі рукамі памацаць. Спыніцца і глядзіць на карову, а даярка з яго вачэй не зводзіць. А вечарам падаіла даярка кароў — надой зменшыўся. Вось і пайшлі размовы — стары кароў сурочыў. Назаўтра, калі даярка ўбачыла, што стары зноў ідзе ў кароўнік, яна схапіла дзяркач і паклала на парозе, каб стары пераступіў яго. Кажуць, усе «ўрокі» дзяркач здымае. Ну, ды нашы людзі пазбавяцца ад гэтага. Хутка не будзе ніякіх слядоў праклятай мінуўшчыны.

Заходзім у цялятнік. Ён такі-ж утульны і чысты, як і кароўнік. Цялятнік не ацяпляецца, але яго жыхары, здаецца, і не адчуваюць холаду. Памяшканне раздзелена на дзве палавіны. У адным аддзяленні — самыя маленькія цяляты, у другім — крыху падрослыя. Для кожнага цяляці зроблены невялічкі станок, вельмі падобны на скрынку. За цялём наладжаны самы строгі догляд. Усё разлічана па гадзінах. Строгі рэжым, аснаваны на шматгадовым навуковым назіранні, спрыяе добраму развіццю цяляці. І не дзіўна, што тут, у соўгасе, не памятаюць выпадкаў захворвання цялят.

Ужо цямнела, калі мы вярталіся з жывёлагадоўчых фермаў. Дамовіўшыся аб заўтрашняй паездцы па аддзяленнях соўгаса, пайшлі ў кантору, дзе спадзяваліся сустрэць агранома.

Казімір Міхайлавіч Дзяўго сапраўды быў у канторы. Ён толькі-толькі прыехаў з аддзялення і зараз размаўляў з рабочымі. Гэта непаседлівы чалавек. Усё ён робіць хутка, нібы некуды спяшаецца.

Свой расказ Казімір Міхайлавіч пачаў з вынікаў сельскагаспадарчага года. Прыводзіў лічбы коратка, як рапарт, без каментарыяў.

Ураджайнасць?.. Збожжавых у сярэднім 19,4 цэнтнера з гектара. На асобных участках — 32 цэнтнеры. Бульбы — 235 цэнтнераў.

Зараз у соўгасе ўведзены васьміпольныя і дзевяціпольныя севазвароты. Збожжавыя сеюцца вузкараднымі сеялкамі, бульба — квадратна-гнездавым спосабам. Насенне — толькі гатунковае. Догляд за пасевамі — высокаякасны, таксама на навуковай аснове. Угнаенні—у абавязковым парадку там, дзе яны патрэбны, і ў дастатковай колькасці...

Далей ён пачаў расказваць аб людзях, і тыя-ж «лічбы і факты» ажылі, напоўніліся новым зместам, пачалі хваляваць той самаадданай працай, якая нарадзіла іх. За імі паўстаў чалавек.

Пачаў ён з таго, пра што казала і Аляксандра Фёдараўна — з перамен у Росі.

— Знішчаюць людзі сляды мінулага. Бачылі бярозавую алею з белым каменем пад кожнай бярозкай? Гэта была любімая алея Патоцкага. Просты чалавек бачыў яе толькі адзін раз у жыцці — калі саджаў бярозкі. Сюды, як і ў другія мясціны — у парк, лес — простаму чалавеку ўваход быў сурова забаронены. А цяпер тут па абодва бакі дарогі прымасціліся маленькія тонкія бярозы. Іх пасадзілі ў мінулым годзе. Моладзь думку падала. «Раней, кажуць, нашы бацькі для графа харáство стваралі, бярозавыя алеі высаджвалі, каб яны графскае вока цешылі, а зараз мы для сябе пасадзім. Усе дарогі ў алеі ператворым».

Бацькі стваралі багацце для графа. А самі не вылазілі з галечы. Усе батрачылі. Упрогаладзь жылі. І дзеці ішлі дарогаю бацькоў. Хадзілі людзі па зямлі ціха — ссохлыя, непрыкметныя. Дзеці раслі без маленства, юнакі без юнацтва. Бо што гэта за маленства без пяшчотнай усмешкі, без гульняў, што гэта за юнацтва без весялосці!

Зараз у соўгасе «Рось» ёсць школа-дзесяцігодка, дзіцячы сад, клуб са стацыянарнай устаноўкай, бібліятэкай. У былых маёнтках графа Патоцкага адчынены зараз дамы адпачынку. У любімым графскім гаі абсталяваны найлепшы ў рэспубліцы піонерскі лагер «Лясная казка». А паблізу ад яго ў былым маёнтку «Тэалін» адкрыты таксама шырока вядомы ў рэспубліцы дом адпачынку. Тут адпачывае большасць рабочых соўгаса.

Мяняецца жыццё, мяняюцца людзі. Былыя батракі сталі знатнымі людзьмі рэспублікі, дзяржаўнымі дзеячамі. На лёсе гэтых людзей можна прасачыць, як высока ўзносіць чалавека яго сумленная праца, як многа прыносіць яна яму радасці.

У соўгасе многа гавораць пра Ганну Паўловіч. Яна дабілася самых высокіх у рэспубліцы надояў малака. Яе партрэты неаднаразова друкаваліся ў газетах, часопісах побач з партрэтамі вядомых артыстаў, пісьменнікаў, музыкантаў, яе артыкулы аб вопыце работы змяшчаліся ў шматлікіх друкаваных выданнях побач з парадамі вучоных. Калі слухаеш расказы аб ёй, дык здаецца, што размова ідзе аб сталым, многае пабачыўшым і пераждыўшым чалавеку.

Але Ганна зусім яшчэ маладая дзяўчына. Чарнявая, невысокага росту, яна сярод сваіх сяброўак самая ціхая. Але варта толькі ёй заўважыць непарадак на ферме, і адкуль тады красамоўства з'яўляецца. Працуе яна ціха, без мітусні — непрыкметна. Затое праца яе прыкметная. Дзяўчыну абралі дэпутатам Гродзенскага абласнога Совета дэпутатаў працоўных, Совецкі ўрад узнагародзіў яе ордэнам Чырвонага Працоўнага Сцяга.

На пытанне, як яна дабіваецца поспеху, Ганна Паўловіч адказала коратка:

— Даглядаю кароў, як мае быць — вось і дабіваюся. Ды і заатэхнікі мне дапамагаюць.

Нам хацелася, каб даярка расказала пра «бяссонныя ночы», якія яна праводзіць за працай. Што за нарыс без «бяссонных начэй»! Але дзяўчына адказала:

— Уначы мы спім. І дня хапае, каб добра працаваць. І на танцы хаджу: цяпер у клуб, а ўлетку — на танцавальную пляцоўку. Праўда, калі толькі ферму арганізоўвалі, дык і парадкі другія былі, тады ўначы спаць не прыходзілася. Бывала, спім, а на душы неспакойна. Вядома, як у гаспадарцы бывае, калі на ногі становішся...

Аграном Дзяўго вельмі высока ацаніў працу маладога трактарыста Генадзія Калінскага. Ён увесь час перавыконвае нормы. Нядаўна хлопец ажаніўся — узяў даярку. Маладым далі новую кватэру.

Хацелася сустрэцца з маладымі, паглядзець, як яны жывуць.

— Іх хата тут, непадалёку — побач з дзіцячым садам, — сказалі нам.

Але па дарозе нас паклікалі ў дзіцячы сад.

У глыбіні алеі стаіць вялікі прыгожы будынак. Алея — з адных ліп. Некалі ў гэтым доме жыла графіня Патоцкая — сястра магната. Зараз гаспадары дома — дзеці рабочых соўгаса, маленькія цікавыя людзі, якім няма ніякай справы да таго, хто тут калісьці жыў. «Дом наш, і садзік наш, і веласіпеды нашы, і цёця Шура наша», — кажуць яны.

Улетку тут, відаць, асабліва прыгожа. Усюды кветнікі, зроблены пляцоўкі для гульняў. Крышачку далей — сад. Заходзіш у пакоі і спыняешся ў захапленні. У прасторных пакоях многа святла. Сонечныя зайчыкі зіхацяць на спінках новых ложкаў, засланых сапраўды беласнежнымі просцінамі, аднолькавымі бавоўнянымі коўдрамі. Але больш за ўсё вабіць вялізны дыван. Ён ляжыць на падлозе ў пакоі для гульняў. Падлога, сцены, як і ў другіх пакоях, пафарбаваны. Дбайныя рукі паклалі на падлогу гэты прыгожы дыван, каб дзецям было зручней гуляць, каб яны не прастудзіліся.

Нядаўна ў клубе соўгаса быў дадзены своеасаблівы канцэрт. Яго ўдзельнікамі былі выхаванцы дзіцячага сада. У клубе і ў будні дзень бывае людна, а ў гэты — асабліва.

Вялікая глядзельная зала грымела ад воплескаў. Людзі пляскалі ў далоні, крычалі «біс» — любы артыст пазайздросціць. А стары Мартын Кохель заплакаў. Выступала яго ўнучка Геля. Выступала ў тым доме, куды Мартыну Кохелю раней быў закрыты доступ.

У клубе можна было напаткаць і многіх дзяўчат, жанчын, на грудзях якіх зіхацелі ордэны і медалі. У соўгасе — 14 ордэнаносцаў. Даяркі Палішчук, Васеха, Фронк, палявод Бурдзюк і многія другія за сваю самаадданую працу, за высокія паказчыкі ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга.

А на сцэне дзеці пелі песні аб сваім шчасці і шчасці сваіх бацькоў.

... Вось і хата, дзе жыве трактарыст Генадзі Калінскі і яго жонка — даярка Ліда Калінская. Хата складаецца з двух кватэр, справа па калідоры — жывуць Калінскія, злева — цясляр Анішчук.



З асаблівым задавальненнем соўгасны бібліятэкар Лена Трушэвіч (злева) выдае кнігі Ганне Паўловіч.
Фота А. Дзітлава.

Генадзія дома няма. Ён па справах паехаў у Скрыбава — аддзяленне соўгаса.

Маладая гаспадыня крыху разгубілася ад нечаканага прыходу гасцей.

У Калінскіх — пакой і кухня. Маладыя толькі, як кажуць, пачынаюць абжывацца, але сёетое ўжо набылі з рэчаў. І яна, Ліда, нядрэнна зарабляе, ну а Гена — «самі-ж ведаеце — трактарыст». У пакоі стаіць новая дарагая шафа, на новай этажэрцы — новыя кнігі. Новыя сталы і крэслы. Усё новае. І жыццё ў Ліды новае.

Дзяўчаты расказваюць аб сваёй рабоце, аб сваім жыцці, аб навінах.

Камсамольцаў у соўгасе вельмі паважаюць. Ініцыятыўная моладзь у соўгасе, працавітая! Нядаўна вось новую ініцыятыву праявілі — вырашылі на камсамольскім сходзе ператварыць «Рось» у соўгас-сад. А калі вырашылі, то абавязкова будзе зроблена. Увосень многа дрэў пасадзілі. Праз год-другі ў кожным двары будзе сад. І ў парку новыя дрэвы будуць пасаджаны.

Гэта будні. Новыя будні соўгаса «Рось». Аб іх даволі трапна сказаў дырэктар соўгаса Грыгорый Іванавіч Шавякоў, чалавек, які многія гады кіруе гэтай гаспадаркай і які многае зрабіў для яе росквіту:

— Добра працуем — добра жывем!

**Соўгас «Рось»**
**Гродзенскай вобласці.**

Ул. ШЫЦІК

# Творчасць

З блакнота карэспандэнта



**Вальцатокар камсамолец Л. Чарноўскі** (злева) **і слесар П. Мінін гутараць аб укараненні чарговай рацыяналізатарскай прапановы.**

Навічку, калі ён упершыню трапіць у лістапракатны цэх, можна разгубіцца. У поўзмроку палыхаюць агнём награвальныя печы, стукаюць валікі лістапракатных станаў, аднекуль зверху, з-пад столі, час-ад-часу чуюцца сігналы сірэны і ўслед за імі лёгка і прыгожа праплываюць над галавой важкія, распаленыя жалезныя пліты вагой у некалькі соцень кілаграмаў.

Разгубленым адчуваў сябе Пятро Мінін, калі ў 1949 годзе ўпершыню трапіў у гэты цэх Магілёўскага металургічнага завода імя Мяснікова.

Абстаноўка сапраўды была незвычайнай: грукат, дым, спякота. Але да гэтага ён хутка прывык. Нават падабалася адчуваць сябе гаспадаром у такой цяжкай, складанай гаспадарцы цэха. Не мог зміры́цца Пятро з другім — з аднастайнасцю сваёй работы. Працаваў ён качагарам награвальнай печы, але яму хацелася ведаць, як пабудавана гэтая печ, як пракатваецца жалеза.

— Станавіся ты, Пятро, слесарам-рамонтнікам, — параілі яму таварышы. — Прафесія цікавая. Без цябе ніводзін агрэгат працаваць не зможа. Кожны вінцік вывучыш, сапраўдным тэхнікам станеш.

І Пятро Мінін стаў слесарам-рамонтнікам.

... З Пятром Мініным мы сустрэліся ў цэху. Агрэгаты працавалі спраўна, і, здавалася, слесару няма чаго рабіць. Ён стаяў ля невялічкага стала з інструментам і штосьці абдумваў. Але нечакана ён насцярожыўся, прыслухаўся, і адразу-ж яго твар спахмурнеў. У рытмічным, рабочым гуле станаў ён, відаць, улавіў нейкія старонnія гукі.

— Зноў крайні станок разладжаны, — незадаволена сказаў Пятро Мінін. — Лісты загінае...

Неўзабаве прыбегла дзяўчына.

— Лісты загінаюцца!.. — усхвалявана гаварыла яна.

— Зараз папраўлю, — спакойна сказаў Пятро.

Праз хвіліну станок зноў весела пстрыкаў ножніцамі, выкідваючы тоненькія істужкі абрэзанага жалеза.

— Станок разлічаны для таўсцейшых лістоў, і таму пры абрэзванні тонкага пракату лісты загінаюцца, — растлумачыў Пятро. — Каб зрабіць яго прыгодным для тонкага пракату, мы вырашылі павялічыць ход прыжыму на ножніцах. Калі цікавіцеся, вось у Мікалая Вікенцьевіча запытайцеся. Ён-жа гэтай справай займаўся.

Мікалай Вікенцьевіч Жук, адказны на заводзе за рацыяналізацыю і вынаходніцтва, усміхаецца:

— Ты, Мінін, не саромейся, расказвай пра ўсё: і пра ножніцы, і пра тое, як змяніў мацаванне стала... Пятро ў нас — адзін з актыўных рацыяналізатараў. Пяць яго прапаноў укараняюцца ў вытворчасць.

— Які я рацыяналізатар?.. Замяніў мацаванне стала балтамі замест кліноў, вось і ўсё.

— А эфект вялікі. Брак намнога зменшыўся.

Мікалай Вікенцьевіч падрабязна расказвае пра Пятра Мініна, пра яго вучобу, работу.

Пятро Мінін — перадавік вытворчасці. Яго зменная выпрацоўка 170—180 працэнтаў. За дбайныя адносіны да працы, за чуласць рабочыя цэха заўсёды выбіраюць яго ў цэхавы прафсаюзны камітэт. Цяпер у цэхавым камітэце Мінін з'яўляецца старшынёй камісіі па тэхніцы бяспекі і ахове працы. Пэўна, гэта даручэнне і паклала адбітак на рацыяналізатарскую дзейнасць Пятра, бо многія з яго прапаноў накіраваны на палепшанне ўмоў працы.

Яшчэ раней, калі Пятро пачынаў работу слесара-рамонтніка, ён адчуў патрэбу ў ведах. Многае давалі заняткі ў гуртку тэхмінімума, але хутка і гурток не мог задаволіць слесара. Ён пачаў займацца сам, а па незразумелых пытаннях кансультавацца ў тэхнікаў і інжынераў. Так былі вывучаны першая і другая кнігі кароткага тэхнічнага даведніка, за ім пайшлі кнігі па металазнаўству і іншая тэхнічная літаратура.

Работа слесара-рамонтніка своеасаблівая. У ёй часта сустракаюцца нечаканыя загадкі, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Здарыцца паломка ў машыне — справіць яе неабходна хутка, нават тады, калі патрэбнай дэталі няма на складзе. Вось тут і выручаюць Пятра Мініна набытыя веды. Ведаючы ўласцівасці розных металаў, ён можа хутка знайсці замену сапсаванай дэталі або зрабіць новую з другога металу.

Кожны новы дзень прыносіць Пятру новыя задумы па рацыяналізацыі, якую ён у душы і не лічыць яшчэ рацыяналізацыяй, але якая на справе стала яго другім важным абавязкам у цэху. З дробнымі ўдасканаленнямі справа абстаіць нядрэнна, затое ў больш складаных часам сустракаюцца няўдачы.

Задумаў аднойчы Пятро перанесці электраматор на другі бок пракатнага стана, каб яго абмотка не псавалася ад пары, што ахаладжвае распаленыя валікі. Зрабіў падлікі, паказаў іх спецыялістам. А яны забракавалі работу.

І Пятро Мінін зразумеў недахопы сваёй адукацыі, зразумеў, што найбольш каштоўныя рацыяналізатарскія прапановы здольны даць чалавек, які мае сур'ёзную тэхнічную падрыхтоўку.

Позна цяпер гарыць святло ў пакоі Пятра Мініна. Высокі, крыху сутулы, з адкрытым, чыстым позіркам, юнак у задуменні сядзіць за сталом, на якім ляжаць чарцяжы, розныя даведнікі, падручнікі. Дзёрзкая, смелая задума ёсць у Пятра. Ён хоча механізаваць разрэз лістоў пракату, якія часам зварваюцца між сабой. Не вельмі проста вырашыць гэта. Але Пятро Мінін, навучаны папярэднімі няўдачамі, падыходзіць да гэтай справы больш узброеным. Ён шукае падобныя прыклады ў тэхнічнай літаратуры, яму дапамагаюць майстар цэха Павел Балеслававіч Бурскі, начальнік цэха Міхаіл Іванавіч Шульга, даюць свае парады рабочыя. Супрацоўніцтва спецыялістаў і практыкаў прынясе станоўчы вынік, працаёмкая аперацыя будзе механізавана. Парукай гэтаму — настойлівасць маладога рабочага Пятра Мініна, які лічыць рацыяналізацыю сваім важным абавязкам рабочага.

**Г. Магілёў.**



**Слесары П. Мінін, П. Бубенкоў і начальнік лістапракатнага цэха М. Шульга абмяркоўваюць рацыяналізатарскую прапанову.**
Фота Ч. Мезіна. (Фотахроніка БЕЛТА.)



Арганізацыя ДТСААФ друкарні імя Сталіна (Мінск) — адна з перадавых у рэспубліцы. На здымку (злева направа): комсамольцы — слесар К. Пупшыновіч, друкары М. Солтан і А. Валесюк — авалодваюць мотасправай.

Фота А. Дзітлава.



**Вечарам у адным з пакояў Мінскага палаца піонераў. Група членаў мастацкай вышыўкі, кройкі і шыцця рыхтуе касцюмы народаў СССР для самадзейнага канцэрта.**

Фота А. Дзітлава.

Павел ТОРМАСАЎ

# ВАЖАТАЯ

Зімовы дзень хіліўся к вечару. Сонца вісела ўжо над самымі дахамі горада.

Уладзімір Смірноў адчыніў брамку прышкольнага саду і падышоў да вялікага будынка.

— Дзе можна знайсці старшую піонерважатую? — звярнуўся ён, увайшоўшы ў дом.

— Нілу Сіневіч? — перапытаў швейцар і зірнуў на гадзіннік, што вісеў на супроцьлеглай сцяне. — Падыміцеся на трэці паверх, у піонерскі пакой. Яна павінна быць там.

Ніла Сіневіч сапраўды была ў піонерскім пакоі. Яна сядзела за пісьмовым сталом, гартаючы старонкі кнігі. Гэта была смуглатварая дзяўчына з вялікімі блакітнымі вачыма. Яе светлыя, старанна зачэсаныя валасы сабраны ў шчыльны жмут. На фоне зялёнай сукенкі вылучаўся яркі чырвоны гальштук.

— Мне параілі звярнуцца да вас... — пачаў Уладзімір. — Справа ў тым, што я таксама кірую піонерскай арганізацыяй.

Важатая насцярожана пaглядзела на Уладзіміра, і ён разгубіўся.

— Хто вам параіў звярнуцца да мяне? — спытала Сіневіч.

— У гаркоме камсамола.

— А якія-ж парады вы хацелі атрымаць?

— Не ладзіцца нешта ў мяне, — шчыра загаварыў Уладзімір. — Па праўдзе кажучы, іншы раз хочацца махнуць на ўсё рукой. У такія хвіліны прыходзіць думка, што з мяне ніколі не атрымаецца сапраўднага важатага.

— Вы мне прабачце, — перапыніла Сіневіч, — у нас зараз пачнецца збор атрада. А пагаварыць нам з вамі трэба абавязкова. — Яна паднялася і яшчэ раз падкрэсліла: — Абавязкова! Калі ў вас ёсць час...

— Добра, я зайду другім разам.

— А можа, пабудзеце на нашым зборы? А пасля і пагаворым.

У пакой пачалі ўваходзіць піонеры — вясёлыя, бадзёрыя, гаманлівыя.

— Цікава пабыць, праўда? — шапнула Смірнову Ніла Сіневіч. — А рэбяты ў нас пaглядзіце якія!

Кожнае слова Нілы Сіневіч гучэла шчырасцю. Зычлівасць і лагоднасць, што адчуў госць адразу, як толькі звярнуўся да яе, прымусілі яго застацца. Вядома, яму цікава і трэба пaглядзець усё самому.

Уладзімір сеў у самым апошнім радзе, уважліва прыслухоўваючыся да ўсяго.

Збор адкрыла старшыня савета атрада Ніна Лукашэвіч. Яна паведаміла, што тэма сённяшняга збора — «Наша родная краіна».

Відаць, піонеры падрыхтаваліся да збору. На сцяне вісела вялікая карта Савецкага Саюза. На стале раскладзены фотаальбомы, розныя малюнкі, рэпрадукцыі з карцін.

Піонерскі хор заспяваў песню «Широка страна моя родная». А потым рэбяты пачалі асобныя месцы песні дэкламаваць, дапаўняць прачытанымі вершамі. Яны падыходзілі да карты і паказвалі на ёй раёны нашай вялікай Радзімы, багатыя лясамі, карыснымі выкапнямі.

Збор прадаўжаўся. І вось нехта пачаў смяшыць сваіх таварышаў. У адным кутку ўзнік вясёлы шум. Уладзімір заўважыў гэта. Ён наглядаў і думаў пра зборы ў сваім атрадзе. Ці бачыла старшая піонерважатая парушальніка дысцыпліны? Убачыла. Яна падыйшла да аднаго хлопчыка якраз у той момант, калі ён прымайстраваў сабе вусы з паклі.

Твар у Сіневіч быў спакойны. Яна паклала руку на плячо вучня.

— Валеры, хіба табе не цікава прысутнічаць на зборы? Тады пакінь нас, не перашкаджай рэбятам.

Зала прыціхла, дзесяткі дзіцячых вачэй уважліва сачылі за важатай і хлопчыкам. Той вінавата апусціў галаву.

— Я больш не буду, — разгублена прагаварыў Валеры.

І збор пайшоў далей. Піонеры з захапленнем гаварылі, часам з такім запалам, нібы самі некалі былі ў гарадах, на рэках, абазначаных на карце.

Збор пашырыў веды піонераў па геаграфіі, гісторыі, літаратуры. Аднак, аналізуючы яго ў канцы, важатая адзначыла, што ён мог-бы прайсці лепш, калі-б не парушалі некаторыя вучні дысцыпліну. Усе ведалі, каго гэта датычылася.

Калі піонеры разышліся, у пакоі усталявалася цішыня. Старшая піонерважатая і старшыня савета атрада размаўлялі пра наступны збор. Уладзімір Смірноў слухаў іх. Пасля таго, як яны развіталіся, Сіневіч звярнулася да яго:

— Ну вось, давайце пагаворым... Дарэчы, як вам спадабаўся збор?

Збор Смірнову спадабаўся. Яны разгаварыліся. Сіневіч успомніла эпізод са сваёй практыкі. Гэта было ў 1947 годзе, калі яна працавала старшай піонерважатай у школе № 48. Спачатку рэбяты таксама не прызнавалі яе. Быў там Коля Верабей, які ўпарта не хацеў падпарадкавацца важатай. Ён падбухторваў супраць яе і некаторых іншых рэбят.

Важатая вынесла пытанне аб паводзінах Колі Вераб'я на абмеркаванне савета дружыны. Прысутнічалі на ім дырэктар школы, настаўнікі. Совет дружыны рашыў паставіць Колі на від. Коля глыбока ўсвядоміў ганебнасць свайго ўчынка. Ён даў рэбятам слова быць прыкладным піонерам, папрасіў прабачэння ў піонерважатай. А пазней напісаў у школьную насценную газету допіс: «Я быў вінаваты»....

Паміж важатымі сама па сабе ўзнікла дружная размова аб піонерскай рабоце, аб метадах выхавання дзяцей, аб тэматыцы збораў і шмат яшчэ аб чым.

Сіневіч дастала том Максіма Горкага, адкрыла старонку і прачытала ўголас:

— «Хацелася-б мне, мілыя таварышы, каб і вы паверылі адзін у другога, паверылі ў тое, што кожны з вас хавае ў сабе мноства каштоўнейшых магчымасцей, талентаў, якія яшчэ не прачнуліся, арыгінальных думак, што кожны з вас — вялікая каштоўнасць».

... Прайшло два тыдні. Піонеры 12-й школы, дзе піонерважатай працуе Ніла Сіневіч, наладзілі экскурсію на фабрыку імя Куйбышэва.

На прасторным двары прадпрыемства дзеці шчыльна абкружылі важатую. Яна расказвала ім пра рашэнне партыі і ўрада аб далейшым пашырэнні вытворчасці прамысловых і харчовых тавараў і палепшанні іх якасці.

Потым прышоў экскурсавод, і рэбяты накіраваліся ў цэхі фабрыкі. Яны з цікавасцю сачылі за работай складаных машын, азнаёміліся з тэхнікай вытворчасці.

На фабрыцы Ніла Сіневіч сустрэлася са сваёй сяброўкай Клавай, якая працуе сакратаром камсамольскай арганізацыі.

— Як займаешся, Клава? — спытала Ніла. — Відаць, цяжка працаваць і вучыцца завочна?

— Ты-ж таксама працуеш і вучышся, — засмяялася ў адказ Клава.

— Так, нялёгка. Затое, колькі цікавага наперадзе! Ты хутка будзеш спецыялістам вытворчасці...

— А ты педагогам, — сказала сяброўка.

У 1948 годзе Ніла Сіневіч скончыла школу піонерважатых пры ЦК ЛКСМБ. Працавала ў 48-й школе, пасля ў 17-й. Работа захапіла яе. Адначасова Ніла вучылася ў вячэрняй сярэдняй школе. Пасля школы паступіла ва універсітэт. Зараз яна ўжо на чацвертым курсе філалагічнага факультэта.

... Дзяўчаты развіталіся, і Ніла Сіневіч дагнала рэбят.

Калі важатая вярнулася ў школу, швейцар перадаў ёй запіску. Ніла паспешліва разгарнула складзеную ўчацвёра паперку.

«...Вы дапамаглі мне паверыць у тое, што кожны з нас «хавае ў сабе мноства каштоўнейшых магчымасцей...». Уладзімір».

У вялікіх спакойных вачах Нілы Сіневіч успыхнулі вясёлыя іскрынкі. Твар яе ўсміхнуўся. «Ён зразумеў, што значыць быць важатым», — радасна падумала яна.



Старшая піонерважатая Н. Сіневіч абмяркоўвае з піонерамі план работы.

Фота Ф. Чэховіча.

Мікола БАРКОЎ

# Мы выйгралі

Апавяданне

Мал. Ю. Пучынскага.

У пакоі, дзе распраналіся хлопцы, хтосьці спытаў:

— А дзе-ж наш Леанс?

Яўген, які распранаўся павольна, не спяшаючыся, агледзеў усіх і не ўбачыў свайго сябра. Сапраўды, дзе Леанс? Надоечы ён бачыў яго, размаўляў з ім. Яны, як звычайна, пажартавалі і разышліся. А вось цяпер, калі да пачатку спартыўнай сустрэчы засталіся лічаныя мінуты, Яўген раптам прыпомніў усё і занепакоіўся: «Чаму я не паклікаў яго? Дзе ён затрымаўся?»

Апранаючы блакітную майку, Яўген зноў пачаў думаць пра тое, як яны будуць сустракацца з прыезджай камандай, перабіраў у думках кожнага з ігракоў-гасцей.

— Глядзіце, хлопцы! — папярэдзіў капітан Сцёпа Іваноў. — На нас спадзяецца ўвесь інстытут. Калі правалім...

Тым часам адчыніліся дзверы пакойчыка і, як-бы дапаўняючы словы Сцёпы Іванова, паказалася і схавалася нечыя галава. Гэта лішні раз гаварыла аб тым, што ў зале хвалююцца гледачы, таварышы, балельшчыкі.

— Дзе-ж Леанс?

— Можа ён не прыдзе?

І гэтае «не прыдзе» разззлавала ўсіх. У пакойчыку загаманілі, закрычалі.

Яўген трывожыўся больш за ўсіх. Па-першае, Леанс яго сябра; па-другое, першы ігрок каманды; па-трэцяе, ён толькі што бачыў яго... Аднак, калі-б Яўген мог зазірнуць любому з каманды, як кажуць, у самую душу, то ўбачыў-бы тое самае, што і ў яго на сэрцы. Ён падняўся і ціха сказаў:

— Хлопцы, я таксама хвалююся... Не менш за вас... — Яўген спыніўся, ягоны голас яшчэ пацішэў. — Трэба даведацца... Я... я зараз схаджу да яго на кватэру і пра ўсё дазнаюся... Без яго нельга пачынаць.

— Правільна!

— А пакуль Яўген збегае, — сказаў капітан каманды, — мы паспрабуем увесці замену.

Спартыўная сустрэча! Да яе студэнты рыхтаваліся амаль з самага пачатку навучальнага года. Адбіраліся самыя лепшыя ігракі. Былі выяўлены магчымасці кожнага, усе былі расстаўлены па сваіх месцах. Шмат прайшло часу, пакуль ля ўваходу ў інстытут з'явілася рознакаляровая аб'ява:

«У суботу ў спартыўнай зале інстытута адбудзецца таварыская сустрэча па валейболу паміж зборнымі камандамі...»

Яўген зірнуў на аб'яву і паімчаўся.

Дзверы яму адчыніла дзяўчынка. Убачыўшы частага госця, сябру брата, яна праспявала:

— Пра-хо-дзьце...

— Я вельмі спяшаюся, — адказаў Яўген і прайшоў у пакой. Там амаль на сярэдзіне стаяў самы звычайны табурэт. На ім у абыякавым парадку ляжала спартыўнае адзенне Леанса. Рукаў курткі звісаў аж да самай падлогі.

— Дзе ён? — спытаў Яўген, паказваючы на адзенне.

— Не ве-е-даю...

— Значыцца, дома няма?! — прамармытаў Яўген.

— Ня-ма.

— Што ён гаварыў?

— Са мной ён не размаўляе... я яшчэ малая.

Пастаяўшы крыху, Яўген вышаў. Вяртаўся ён назад у інстытут з нейкім цяжкім асадкам на сэрцы.

Гэта было два гады назад, калі на першы курс інстытута прышоў вясёлы, крыху свавольны хлапец Лёня. Ён хутка пачаў лічыць сябе сталым і вельмі ўпэўненым чалавекам. Яму здавалася, што ўвесь свет глядзіць на яго, і дастаткова яму сказаць слова, як усё будзе так, як ён пажадае. Ён запісаўся ў спартыўную каманду. Тут і пазнаёміўся з ім Яўген. Пасля аднае гульні яны моцна паціснулі адзін аднаму рукі. Лёня сказаў:

— Яўген, ідзем ва універмаг.

— Чаго?

— Я хачу купіць сабе новы капялюш...

А купіўшы капялюш, Лёня сказаў:

— Зараз я не Лёня, а Леанс. Цудоўна!

Яўген палічыў тады гэты ўчынак за дзіўацтва. І хлопцы засмяяліся, але аднесліся да Лёні з павагай: на агульным сходзе курса яго прозвішча трапіла ў лік мацнейшых валейбалістаў. Калі-ж аднойчы ён спазніўся на трэніроўку, а потым яшчэ раз, Яўген хацеў з ім пагутарыць, распытацца, але так скла́ліся абставіны, што не было часу. З дня на дзень ён усё адкладваў і адкладваў гэтую размову. «Можа цяпер пагаварыць? — думаў, ідучы, Яўген. — Ды позна... Адмяніць ігру. Але адмяніць ігру пры спартыўнай сустрэчы гэта тое самае, што добраахвотна здацца. О не!»

Сябры не сталі турбаваць яго рознымі пытаннямі. Яны глянулі на Яўгена і ўсё зразумелі. Ля акна капітан даваў інструктаж «замене» — студэнту, якога звалі Славусь. Той уважліва слухаў, і ледзь прыкметная ўсмешка адбівалася на ягоных вуснах.

— Відаць, вельмі рады, — буркнуў хтосьці. — Ды рана радавацца.

— Хлопцы, да выхаду!.. — пачуўся голас трэнера каманды.

Першым стаў капітан. За ім, значна вышэйшы за яго, Мікола, за Міколам Слаўка. Ён крыху згорбіўся і таму здаваўся аднолькавага росту з Яўгенам, які на хаду папраўляў сваё адзенне.

У спартыўнай зале інстытута было вельмі светла. Святло лілося мяккімі праменнямі. Гледачоў сёння сабралася шмат. Як бывае ў такіх выпадках, тут былі студэнты розных курсаў, і нават з другіх інстытутаў, некаторыя з іх былі ў спартыўных касцюмах. Некаторыя сядзелі проста на падлозе, частка ўдала прыстасавалася на казлах, частка стаяла, а іншыя нават узлезлі на драбіны. Усё гэта нагадвала маленькі стадыён, з ярусамі і пляцоўкай. Розныя галасы, гоман дапаўнялі ўвесь гэты малюнак. Калі-ж на пляцоўцы з'явіліся дзве каманды, наступіла цішыня.

Свісток.

Ігра пачалася.

Падачу зрабілі госці.

Мяч лёгка пераляцеў сетку, тут яго прыняў Мікола. Ён даў маленькі пас Сцёпу, а той у сваю чаргу накіраваў мяч назад. Там яго таксама прынялі. Некалькі добрых пасаў, і ён зноў тут.

Яўген спачатку вельмі добра адчуваў, як у зале раз-по-разу чуліся галасы балельшчыкаў, але потым ён аб усім забыўся. Яму здавалася, што тут нікога няма. Ён бачыў толькі адно — мяч.

Як спрытна мяч пераходзіў з рук у рукі! Іншы раз здавалася, што вось-вось ён можа



апынуцца на падлозе, але... момант, і ён зноў ляцеў за сетку. Вось мяч ляціць на Слаўку (гэта новенькі!). Якая-небудзь доля секунды, і Яўгену здалося, што Слаўка не падрыхтаваўся яго ўзяць. Яўген кідаецца да мяча. Моцны ўдар. У зале пачуліся крыкі, свіст...

Паступова ігра набыла больш рытмічны характар. Усё часцей і часцей умешваўся суддзя.

Тры свісткі.

Нібы хто ўдарыў Яўгена. Ён зразумеў, што першы тайм каманда прайграла. З болем у сэрцы ён пераходзіў на другі бок сеткі. Яму здавалася, што ўся зала глядзіць толькі на яго і ўсе смяюцца. «Які сорам! Першае паражэнне!» З'явілася апатыя да ўсяго. Але спартыўная ігра патрабуе вытрымкі, волі. Ён глянуў наўкола.

Сцёпа Іваноў стаяў так, нібы рыхтаваўся пабегчы, твар у яго быў белы. Далей стаяў Слаўка і, нібы нічога не здарылася, ледзь прыкметна ўсміхаўся.

І толькі зараз Яўген звярнуў увагу на сябе, ён стаяў і адчуваў, што яго калені трасуцца. Тады ён стаў шырока і сам сабе пачаў паўтараць: «Яўген, не турбуйся!» І чым больш ён сябе суцяшаў, тым больш у яго трэсліся калені.

У другім тайме ігралі яны больш сціпла. Знікла мітусня, якая адчувалася ў пачатку.

Каманда гасцей была таксама добра падрыхтаванай, але, як сцяна, стаялі Яўген і яго сябры. Вось адзін з гасцей стаў на падачу. Ён лёгка падкінуў мяч левай рукой і прыгожа ўдарыў яго. Мяч праляцеў над галовамі і бухнуўся ў сцяну.

— Агу-у-у, — зашумелі балельшчыкі.

За падачу ўзяўся Яўген.

Пас. Зноў пас, ужо каля самай сеткі. Сцёпа падскочыў і ў той момант, калі мяч ляцеў уніз, моцна, з-за пляча, яго ўдарыў. Мяч паляцеў да падлогі, і калі да яе заставалася не болей як з поўметра, яго падхапілі. Усё гэта адбылося хутка, нават маланкава. Праз некалькі пасаў мяч ляцеў на самую сетку. Вось-вось ён упадзе. Але на які бок? У гэты момант Слаўка падскочыў і лёгка штурхануў мяч да гасцей. Гэта здарылася так нечакана, што ў зале пачуліся воплескі.

Рукавом майкі Яўген абцёр кроплі поту, калі закончылася ігра. Ён крыху пастаяў, як-бы не верачы ў перамогу, і лагодная ўсмешка разлілася па твары.

У бадзёрым настроі вярталіся яны ў гардэроб.

Можна было падумаць, што сюды прышлі самыя шчаслівыя людзі.

І вось праз акно Яўген заўважыў на вуліцы нейкую постаць. Ён прыгледзеўся.

— Хлопцы, дык гэта-ж ён, Леанс! — вырвалася ў яго. Яўген мігам схапіў сваё паліто і кінуўся за дзверы.

На дварэ пачынала цямнець. Горад ахутваў змрок. У небе плылі цёмныя начныя хмары. Па вуліцы крочыў Лёня. Ён быў не адзін.

Яўген крануў яго за рукаў. Той павольна павярнуў галаву і спыніўся.

— А... — сказаў ён. — Яўген?

— Я, — адказаў Яўген і спыніўся. Ён забыўся ўсе тыя словы, якія збіраўся выказаць.

Некалькі часу стаялі так моўчкі.

— Знаёмцеся, — сказаў Леанс, — мая знаёмая.

Дзяўчына падала руку.

— Ігру адклалі? — нечакана спытаў Леанс.

— Не... Ігра закончылася...

— Прайгралі?

— Мы выйгралі...

І калі-б зараз быў дзень, то Яўген заўважыў-бы, як твар Лёні ўвесь пачырванеў. Зараз-жа, ад святла, якое падала ад вулічнага ліхтара, ён толькі зрабіўся цямнейшым. Леанса, відаць, скаланула.

Тут іх дагналі хлопцы. Заўважыўшы дзяўчыну, прывіталіся і, узяўшы Яўгена за локаць, нехта з каманды сказаў:

— Хадзем, Яўген! Бачыш, яму сёння няма часу...

— Пагутарым заўтра, — сказаў Яўген, адыходзячы.

І яны пайшлі.

А Леанс, здаецца, недаўменны застыў на месцы. «Яны не адклалі ігры — яны выйгралі», — мільганула ў яго думка. І калі ён апамятаўся, то заўважыў, што стаіць адзін. Сяброўка, якой ён прысвяціў увесь гэты час знаёмства, таксама яго пакінула.

# БРЭСЦКІ ПЕДАГАГІЧНЫ





**Пасля памятных вераснёўскіх дзён 1939 года працоўныя заходніх абласцей Беларусі пачалі будаваць новае жыццё. Адкрываліся новыя школы, спецыяльныя навучальныя ўстановы. Тады-ж быў створаны і настаўніцкі інстытут у Брэсце. У 1950 годзе на базе ўзмацнеўшага настаўніцкага інстытута рашэннем урада быў створаны педагагічны інстытут, які зараз носіць імя А. С. Пушкіна.**

**У сценах інстытута рыхтуюць сябе да будучай ганаровай прафесіі педагогаў каля тысячы студэнтаў.**

**У інстытуце створаны ўсе ўмовы для плённай вучобы, усебаковай падрыхтоўкі кваліфікаваных выкладчыцкіх кадраў.**

**Адным з найлепш абсталяваных з'яўляецца кабінет заалогіі (фота ўверсе злева). Многа карысных, патрэбных ведаў даюць студэнтам лекцыі кандыдата біялагічных навук М. Я. Аса. Свае лекцыі выкладчык заўсёды суправаджае ілюстрацыяй наглядных дапаможнікаў, многія з якіх зроблены рукамі саміх студэнтаў.**

**Раней, пры польскіх панах, сын селяніна-бедняка, зараз кобрынскага калгасніка, Мікалай Міхнюк не мог нават і марыць аб тым, што ён будзе вучыцца ў вышэйшай навучальнай установе. А цяпер — гэта радасная ява! Такая-ж радасная яна і для сына шарашоўскага калгасніка комсамольца Івана Шахалевіча і для Рэгіны Себасцяновіч, што прыехала вучыцца ў Брэст з Гродзеншчыны. На другім здымку Іван Шахалевіч і Рэгіна Себасцяновіч робяць у хімічнай лабараторыі самастойныя доследы.**

**Студэнты інстытута жывуць у добра абсталяваных і ўтульных інтэрнатах. Вось на фотаздымку паказаны адзін з пакояў студэнцкага інтэрната. На пярэднім плане гамельчанка Любоў Гуціна. Вучобу на чацвертым курсе філалагічнага факультэта яна спалучае са сваім любімым заняткам — мастацкім вышываннем. А вось Вара Васілюк (першая справа) і яе сяброўка Роза Ландо ў вольны час праглядаюць свежыя нумары часопісаў і газет...**

**Вечарамі, калі ў аудыторыях спыняюцца заняткі, у актавай зале збіраюцца ўдзельнікі калектыва мастацкай самадзейнасці (фота ўнізе). Інстытут мае свой духавы аркестр, струнны аркестр, працуюць харавы, драматычны і танцавальны гурткі. Канцэрты студэнцкай самадзейнасці слухае не толькі моладзь інстытута, але і працоўныя Брэста, і калгаснікі падшэфнай сельгасарцелі «Большэвік». Радасна гучаць песні шчаслівай совецкай моладзі.**

Тэкст З. Ільеўскага.

Фота В. Германа. (Фотахроніка БЕЛТА.)





# Іх прыгожвае праца

Тэкст А. АСІПЕНКІ,



Ёсць вельмі шмат прафесій, якія часам называюць маленькімі, непрыкметнымі. Іншая справа токар, слесар, тэхнік-будаўнік ці, скажам, канструктар. Нават у саміх словах ужо ёсць нешта рамантычнае, захапляючае. Але гэта толькі так здаецца, бо ў нашай краіне кожная прафесія важная, кожная праца пачэсная, таму што яе плёнам карыстаюцца савецкія людзі. З гордасцю гавораць аб сваім абавязку калгаснага кніганошы комсамолец Іван Вежнавец. Як дарагога госця, чакаюць яго калгаснікі сельгасарцелі «Гігант» Бабруйскага раёна. За апошнія гады Іван Вежнавец даставіў літаратуру ў тысячы дамоў калгаснікаў.



Добра ведаюць гамельчане Рыгора Сцяпанавіча Сурту — майстра гадзіннікаў з гомельскай арцелі «Адраджэнне». Ведаюць таму, што Рыгор Сурта сумленна адносіцца да сваёй работы, што адрамантаваны ім гадзіннік не трэба будзе праз некалькі дзён зноў несці ў рамонт. І хоць у Рыгора прафесія непрыкметная, але сумленная праца зрабіла яго добра вядомым.

Такая-ж, «на першы погляд» непрыкметная, маленькая прафесія і ў Валі Адамовіч. Працуе яна тэлефаністкай Мінскай міжгароднай станцыі. Але Валя акуратна выконвае заказы, штодзённа перавыконвае норму. Нездарма яе праца адзначана загадамі Міністэрства сувязі СССР.

Фота карэспандэнтаў БЕЛТА: Ч. Мезіна, Н. Дзяругіна, В. Лупейкі, Л. Матусевіча, С. Капелькі і Л. Пекарскага.



Аляксей ЗАРЫЦКІ

# Аповесць пра залатое дно...

(Урыўкі з паэмы)

Паўз стадыён, паўз ясакары парка,
На пляж — к зялёным астравам рачным —
Ляціць, як чайка, лодка лёгка, шпарка.
У ёй Якуб. Ірына поруч з ім.

Калі крыху схіляецца яна,
Каса кранаецца ракі струменнай.
Спяшае човен. След вірлівы, пенны
Бяжыць за нізкаю кармой чаўна.

Зялёны востраў. Плёс аж глянуць люба!
Не церпіцца — паплысці-бы хутчэй...
Вада плюскоча пад рукой Якуба.
За ўзмахам плаўны ўзмах, яшчэ, яшчэ...

Ён выплыў на рачную быстрыню
І азірнуўся —
Крок за ім Ірына
Узакідкі плыве, нібы мужчына:
— Спяшайцеся, а то я даганю...

Ён затрымаўся на сустрэчнай хвалі,
І поруч паплылі яны ўсё далей, далей.
Дадому шумным паркам ідучы,
Яны спыніліся ля каруселі.

Грымела музыка. Званкі звінелі
І коні златагрывыя ляцелі,
Здавалася, наздрамі сапучы.
І клён разложысты шумеў над імі
Зялёнымі галінамі сваімі.

Ці мала на конях імклівых
Паўз гэты галiністы клён
Прамчалася сэрцаў шчаслівых
Адно за адным наўздагон?!.

Звіняць, як ніколі, сягоння
Званкі, ўсё званчэй і званчэй.
Зямлі не кранаюцца коні,
Імчацца хутчэй і хутчэй.

Імчацца яны безупынна,
Аж пена кіпіць каля губ.
Ляціць за Якубам Ірына,
Услед за Ірынай — Якуб.

Ды колькі наперад ні рвацца,
Не ўступяць адно аднаму:
За ім ёй ніяк не угнацца,
За ёй не угнацца яму.



Пакінем Шпунта, вернемся ізноў
Да нашага Якуба, да Ірыны.
Нібы вялікая рака, любоў
Бярэ пачатак з вузкай ручаіны.

Хай за прытокам к ёй бяжыць прыток,
Хай б'юць крыніцы з дна струменем чыстым.
І вось, глядзіш, раскінуўся паток,
Паплыў у даль шырокі, урачысты.

Бывае забурліць ён, зараве,
Патрапіўшы ў скалістую цясніну,
Але ізноў выходзіць на раўніну,
Ізноў, як Прыпяць плынная, плыве.

Быў ліпень. Быццам мора, на палях
Шумела збожжа. Ліпы зацвіталі.
Такія дні пагодныя стаялі,
Так ярка зоры ззялі па начах,

Нібы агні нязнаных караблёў,
Што дзесь плывуць па небе-акіяне.
Скажы, як ты, як ззяеш ты, любоў,
Вячэрняй зоркаю ці зоркай ранняй?!

Ці вузкай ручаінкаю лясной
Блукаеш боязна ў глушы гушчараў?
Ці, як рака шырокая вясной,
Плывеш імкліва да марскіх абшараў?..

... Плыла без вёслаў лодка па рацэ.
Крычаў на поплаве дзяргач самотны.
Ніхто не чуў сардэчных слоў пяшчотных,
Ніхто не бачыў, як рука к руцэ
Цягнулася,
Як вочы заглядалі
У жывую глыбіню другіх вачэй,
Як вуснаў вусны ў цемені шукалі,
Як ля дубоў купчастых у жытах
Яны сядзелі перад развітаннем,
Як човен іх пад кручай у кустах
Чакаў, чакаў... А ўжо ўставала ранне,
І там, дзе да палёў бягуць сцяжынкі,
Выходзілі камбайны на зажынкі.



Лісты зляцелі залатыя з вяза,
Зляцелі з араховага куста,
Ды ад Ірыны штось няма ліста.
Як неспакойна на душы Бакаса!..

І неяк выгадаўшы вольны час,
К Ірыне выехаў Бакас.

Вялікі край палескі. Добры выбар
Ірына мела й выбрала яна
Далёкую сялібку Серадзібар,
Што пасярод бароў стаіць адна
І слухае з вялізнае паляны
Іх аднастайны гоман несціханы.

Далі Ірыне хату. Пахнуць сенцы
У спякотны дзень смалістаю сасной.
Свяцёлка светлая на тры акенцы
І вузкая бакоўка поруч з ёй.

Сабе Ірына кабінет з бакоўкі
Зрабіла. На паліцах кнігі ў рад
Стаялі. А пад самай столлю зёлкі
Віселі вязкамі. Было іх шмат.

Тут быў гарчак, крывавец, цвет каліны,
Карэнне слёз зязюльчыных, чабор...
Нібы пакінуўшы палескі луг і бор,
Усе перасяліліся расліны
У гэты адмысловы кабінет.
Увагай карысталіся Ірыны
Старыя лекі, і яна іх дбала
Вышуквала ў народзе, вывучала
Любоўна, як удумлівы паэт,
Што вывучае песні і легенды
І там дзівосныя знаходзіць дыяменты,
Людскімі пакаленнямі як трэба
Адшліфаваныя за сотні год.
З усіх майстроў найлепшы сам народ,
І мудрасцю яго, мой друг, не грэбуй!

Як завітаў стары, тады для таты
Бакоўку чыста вымыла дачка
І вынесла ў святліцу прэпараты,
Развесіла там зёлкі на цвічках.

Хто ўпершыню заходзіць у святліцу,
Дзе вязкі траў вісяць на сценах скрозь,
Той думае: «Убачу я вось-вось
Старую варажбітку-чараўніцу».

Але насустрач ветлая дзяўчына
Выходзіла у сукенцы з крэпдэшына...

Да Серадзібара прыехаў раннем
Машынаю папутнаю Бакас.
Зайшоў у хату і заспеў якраз
Ірыну і старога за сняданнем.

Яго прыезд зусім быў нечаканы.
Антон Кузьміч, зірнуўшы быццам воўк,
Не павітаўшыся, як апантаны,
Знік у бакоўцы й засаўкаю шчоўк.

Якуб з Ірынай выйшлі разам з хаты
І за аселіцу пайшлі адны,
У лес пайшлі пад векавыя шаты.
Вялі размову сумную яны.

— З табою разам быць, табе ўсміхацца,
Якуб, падумай, як-бы я змагла,
Калі зрабіў ты бацьку столькі зла,
Расстацца трэба нам, хутчэй расстацца.

— Ну што, Ірына, я зрабіў благога?
Сказаў у вочы праўду, больш нічога.

— Казала мне матуля ў дзень астатні:
«Шануй, любі, дачушка, тату — ён
Аддаў навуцы ўсё з юнацкіх дзён
І подзвіг зробіць для людзей выдатны».

Ты папрасіў-бы выбачэння ў таты.
— Як мне прасіць, не я-ж быў вінаваты.

— Не кіну бацьку я. Якуб, бывай!
— Ірына, дарагая, пачакай!
Ты ведаеш, паданне ёсць — калісьці
Зязюля дзеўчынай прыгожаю была.
Быў мілым у яе Якуб. Кляліся
Яны ў каханні. Толькі не змагла
Быць вернай слову гэтаму дзяўчына.
Ці тата разлучыў, ці матка разлучыла
Не знаю я, ды сумным быў канец.
Пайшоў у свет пакрыўджаны хлапец.

І вось яна каханага шукала,
У пушчах дзікіх, у гаях гукала,
Пакуль зязюляй шэраю не стала.
Дасюль заве, шкадуючы аб згубе:
— Я-ку-бе, Я-ку-бе...
Не будзем казку паўтараць старую.
Гукнеш — пачую
Цябе за трыдзевяць зямель, Ірына...

Асенні хмарны дзень. Адна
Да вёскі напрасцяк ішла дзяўчына,
Не азірнулася яна.
— І-ры-на, па-чакай! — гукнуў з прылесся
Якуб. — І-ры-на! — ён паклікаў зноў.
Заціхла рэха дзесь далёка ў лесе.
Халодны дробны дожджычак пайшоў.
Не азірнуўшыся, паволі
Дзяўчына йшла па зарунелым полі.



## Іх упрыгожвае праца

Вам трэба праехаць ад Мінскага аэрапарта да парка Чэлюскінцаў. Калі, напрыклад, вы едзеце аўтобусам, які вядзе шафёр 1 класа комсамолец Пётр Радасцін, дык гэта азначае, што ў дарозе з вамі не здарыцца ніякіх «прыгод». Пётр вядзе машыну роўна, без нечаканых штуршкоў, паваротаў. На прыпынках ён уважліва сочыць за пасадкай, зачыняе дзверы тады, калі ўсе пасажыры селі. Сваёй працай Пётр Радасцін заваяваў аўтарытэт у мінчан.



Елена Салянік — краўчыха. Працуе яна ў Баранавіцкай арцелі «Усход». Штодзённа выконвае норму на 200 працэнтаў. Імкнецца выконваць работу высокаякасна. Старанная праца вылучае Елену сярод астатніх рабочых. Яе імя добра вядома моладзі горада Баранавічы.

Пачэсная работа і ў Раісы Жукавай. Яна — правадніца паяздоў дальняга следавання станцыі Мінск. Раіса Жукава клапоціцца пра пасажыраў, сочыць за чыстатой. За культурнае, ветлівае абслугоўванне яна мае не адну падзяку.

Праца ў Совецкім Саюзе ўпрыгожвае чалавека, робіць яго героем. Дзе-б ні працаваў совецкі чалавек, усюды ён сваёй працай дапамагае будаваць комуністычнае грамадства. Вось чаму ў нас няма маленькіх прафесій. Усе прафесіі ў нас аднолькава важныя, аднолькава неабходныя.



**І. НАУМЕНКА**

# СЁННЯ Ў ПІНКАВІЧАХ



Пінкавіцкая сярэдняя школа імя Якуба Коласа.

**Дарагія таварышы і сябры!**

Шчыра дзякую вам за ваша пісьмо, за вашу памяць. Гэта пісьмо ўсхвалявала і парадавала мяне, як сведчанне вашых прыязных і добрых адносін да мяне. Таксама мяне радуе і тое, што за час маёй разлукі з вамі вы далёка рушыліся наперад па шляху культуры і прагрэсу, што вы «ўжо не тыя «палешукі», не тыя цёмныя і забітыя гарапашнікі, а свабодныя савецкія людзі».

Так, дарагія таварышы, амаль поўвека мінула з тых дзён, калі я, тады яшчэ юнак, прыехаў у вашу вёску, у школу. У маіх вачах і сягоння ўстаюць малюнкі пінкавіцкіх і вышавіцкіх ваколіц, зарэчныя прасторы балот, заросшых чаротамі, і жыццерадасны народ, хоць бедны і заціснуты панамі-скірмунтамі, царскімі чыноўнікамі, жандарамі і паліцыяй. Але ўсё гэта ўжо далёкае мінулае. Адыйшоў у прошласць і панскі прыгнёт шляхецкай Польшчы пана Пілсудскага. І з 1939 года вы злучыліся са сваімі братамі ў сям'і народаў Вялікага Савецкага Саюза, у адной Савецкай дзяржаве.

... Дзевятнаццаты з'езд партыі намеціў новую грандыёзную праграму далейшага росквіту нашай Радзімы, дабрабыту яе народаў, умацавання яе магутнасці. Перад намі прасторныя дарогі ў нябачаны свет комунізма. Дык прыложым, таварышы, усе нашы сілы, нашы намаганні і нашу волю да выканання і перавыканання новага пяцігадовага плана! У гэтым залог нашай эканамічнай магутнасці, нашай моцы і дабрабыту.

Ад усяго сэрца жадаю вам поспехаў у імя трыумфа нашай магутнай Радзімы.

**Якуб КОЛАС.**

«Палеская праўда», 15 лістапада 1952 г.

Калі едзеш у Пінкавічы, то міжволі ўспамінаецца, што поўвека назад у гэтай вёсцы працаваў настаўнікам народны паэт Беларусі Якуб Колас. Уважлівей прыглядаешся да навакольных мясцін і краявідаў, параўноўваеш тое, што бачыш, з тым, што апісана выдатным беларускім мастаком у яго аповесці «У глыбі Палесся».

Дарэвалюцыйныя Пінкавічы выступаюць у «Палескіх аповесцях» Якуба Коласа пад назваю Выганы. Вядома, мастацкі твор не простая фатаграфія фактаў і падзей, якія адбыліся ў пэўным месцы, а іх абагульненне, тыпізацыя. Таму і нельга ў такім творы шукаць падрабязнага ўзнаўлення ўсяго таго, што было ў жыцці, але вядома і тое, што сапраўды мастацкі твор лепш за ўсякую фатаграфію або апісанне ўзнаўляе праўду жыцця.

Вось дарога з Пінска ў Пінкавічы. Калісьці Лабановічу, герою аповесці «У глыбі Палесся», каб даехаць да Выганаў, прышлося старгаваць за рубель на Каралінскім рынку возніка. Сёння рабіць гэтага не трэба. Кожныя дваццаць хвілін з Пінска сюды ходзіць аўтобус. За акном прабягаюць краявіды, ужо знаёмыя нам па апісанню пісьменніка. Тыя-ж разложыстыя вязы і ліпы, тольні іх стала больш — яны цягнуцца ўзбоч дарогі амаль суцэльнаю чарадой. І паселішчаў таксама стала больш. Складаецца ўражанне, што едзеш нібы па адной бясконца доўгай вуліцы.

Некалі пры ўездзе ў Выганы на прыдарожным слупе вісела табліца, на якой значылася, што ў вёсцы налічваецца 73 двары. Сёння нават неспакушаны ў падліках чалавек пераканаецца, што вёска вырасла разы ў тры. Яна раскінулася некалькімі сваімі вуліцамі ўздоўж звілістай, заросшай чаротам і асакой рэчкі Піны. Пры ўездзе ў Пінкавічы добра відаць калгасны двор з новымі будынкамі на каменных падмурках. Далей узвышаецца белы двухпавярховы каменны будынак школы імя Якуба Коласа.

Вучаніца трэцяга класа Рая Даніловіч іграе на піяніна.



### СВЕДКІ БЫЛОГА

Праўленне пінкавіцкага калгаса імя Молатава размешчана ў новым, складзеным з сасновых бярвенняў доме. Ён раздзелены на тры пакоі. У адным, схіліўшыся над сталом, спакваля б'е на лічыльніках Ананій Курыль, калгасны касір. Робіць гэтую работу ён з поўным усведамленнем яе важнасці і адказнасці. У яго надзвычайна строгі твар і ссунутыя на пераносіцу акуляры. Дзяўчаты, якія сядзяць за суседнім сталом і часам хіхікаюць, расказваючы на вуха адна адной штосьці надзвычай таемнае, адразу змаўкаюць, як толькі Ананій Курыль падыме галаву ад сваёй работы і кіне ў іх бок выразны позірк.

У пакоі, першым ад уваходу, на лаўках сядзяць чалавек з дзесяць калгаснікаў і заядла дымяць цыгаркамі. У пакоі горача, хоць безупынна адчыняюцца дзверы і сюды ўрываюцца белыя клубы халоднага паветра.

Па ўзросту тут пераважна людзі сярэдніх год, але ёсць і пажылыя.

Калі гутарка заходзіць пра Якуба Коласа, то калгаснікі ўключаюцца ў яе вельмі ахвотна. У Пінкавічах ёсць яшчэ людзі, якія добра памятаюць тую пару, калі працаваў тут народны паэт. Вось першы з іх — Мікіта Рыгоравіч Козіч, той, што зараз паліць у грубцы. Ён вучыўся ў школе, калі быў настаўнікам Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Памятае пісьменніка і намеснік старшыні Васіль Апанасавіч Кароль, хоць яму і мала прышлося пры ім навучацца. Не забылі і Мікіта Рыгоравіч Перышч і Ананій Дзмітравіч Курыль, той, што складае касавую справаздачу.

Але ўсе сыходзяцца на думцы, што больш за ўсіх ведае пра Якуба Коласа Фама Пятровіч Бязручка, які працуе ў калгасе брыгадзірам агароднай брыгады. Ён меў некаторае дачыненне да той рэвалюцыйнай работы, якую вёў некалі ў Пінкавічах Якуб Колас. Але Фамы Бязручкі зараз няма, паехаў па сена.

Мікіта Козіч, нізкі, прысадзісты, крыху ссутулены. У яго ўжо зусім сівая галава і абвіслыя вусы.

— Я тады другі год хадзіў у школу, як прыехаў да нас настаўнік Міцкевіч, — расказвае ён, вымаўляючы шмат якія словы на украінскі манер (дарэчы, такое вымаўленне не толькі ў Козіча, і, як тут кажуць, гэта не дзіва, бо да Прыпяці рукой падаць, а за Прыпяццю ўжо Украіна).

— Добры быў настаўнік, нам ён спадабаўся адразу. Просты, абыходлівы і вучыў зразумела. Да яго зух быў нейкі: ледзь што не так дык — за лінейку і «давай лапу». А гэты браў на зацікаўленасць, на сумленне. І навуку ведалі добра. Я, памятаю, кнігу чытаў, дык нібы рэпу грыз...

— Ды ты ўжо хіба сябе не падхвальвай, дзядзька! Нешта-ж ты далёка не пайшоў у навуцы...

— Пойдзеш, чакай! Гэта-ж табе не цяпер. Дзве зімы я ў школу пахадзіў, а як на трэцюю прышлося, то бацька і кажа: «Хопіць, бо і так ужо дужа вучоны. З тваёй навукі, кажа, хлеба ўсёроўна не есці. А работнік у гаспадарцы трэба». Ну, і пайшоў я гучкі і вецце на корм жывёле рэзаць — з сенам у нас нястача была.

Устаўляе слова Васіль Кароль, затым і Ананій Курыль, які, нарэшце, адарваўся ад касавай справаздачы. Успамінаюць, што настаўніка Міцкевіча паважалі сяляне, што хадзілі часта да яго за парадамі, што любіў ён слухаць народныя спевы, любіў умелых расказчыкаў. З лёгкай рукі маладога Коласа хадзіла сярод сялян нямала вострых слоўцаў пра цара Мікалая і яго прыслужнікаў.

Адчыняюцца дзверы, заходзяць новыя людзі. Яны прыслухоўваюцца да гутаркі, а іншы раз і ўмешваюцца ў яе. І паступова гутарка пераходзіць на тэму аб жыцці да рэволюцыі і пры польскіх панах.

— Зямля ў нас не благая, але мала было яе, — расказвае брыгадзір Фёдар Пасінюк. — На іншы двор якая-небудзь поўдзесяціна прыходзілася. То хіба пракорміш-ся?.. І сапраўднай культуры не было ў гаспадарцы, бо дробная-ж яна была. Ураджаі цяпер у нас куды большыя, чым пры аднаасобным жыцці. Мая вось брыгада азімых па 16 цэнтнераў ды яравых па 15 з кожнага гектара сабрала. Вось што значыць правільная агратэхніка!

На двары змяркаецца. Брыгадзіры даюць заданні на заўтрашні дзень. Работы многа. Зараз вывозіцца гной і торф, ідзе ачыстка насення. Вясна не за гарамі. Намеснік старшыні Васіль Кароль напамінае брыгадзірам аб тым, што трэба падрыхтаваць падводы, каб вывезці ў калгас рэшткі збожжа з раённага ссыпнога пункта. Справа ў тым, што пінкавіцкі калгас насенняводчы, ён вырошчвае толькі гатунковае насенне, якое поўнасцю звозіцца на раённы ссыпны пункт для забеспячэння ім іншых калгасаў. Для размеркавання на працадні калгас атрымлівае адтуль звычайнае збожжа.

Калгасны працадзень аплачваецца нядрэнна: летась выдадзена па два з паловай кілограмы збожжа і два кілограмы бульбы, не лічачы грошай і іншых прадуктаў. Шмат хто з калгаснікаў атрымаў па 60, 80, 100 пудоў хлеба. А некаторыя нават не забралі ўсяго свайго збожжа, якое налічана ім на працадні. Вось пра гэта і ідзе зараз размова.

— Жыць стала весялей, — гаворыць Змітрок Палішчук, кладаўшчык. — Падаткі меншыя, прыбыткі большыя. Раней мяне за крысо цягалі: калі ды калі на працадні выдаваць будзеш. А зараз мне прыходзіцца ўслед за Яўхімам Калем бегаць: забяры, калі ласка, свой хлеб, мне склад перадаваць трэба, а тут няма поўнага разліку па працаднях.

Яўхім Каль, які працуе ў будаўнічай брыгадзе, стаіць, прыхінуўшыся да сцяны і неяк па-дзіцячаму ўсміхаецца. Чалавек ён ад прыроды буйны, нібы высечаны з каменя, гаворыць спакойна і працягла.

— У калгасным свірне, можа-ж, не прападзе мой хлеб, — гаворыць ён. — Можа, у мяне ссыпаць няма куды?

— І сапраўды, Яўхім, куды ты столькі хлеба дзенеш? — звяртаецца да будаўніка Аляксандр Шапялевіч. — Пазалетась ты, лічы, у двор свой пудоў сто дваццаць згрузіў і летась табе, пэўна, цэлых дзвесце налічылі. Няўжо спажывеш столькі? Прыдзецца табе, відаць, вартаўніка наймаць, каб багацце тваё ахоўваў.



У мінералагічным музеі БДУ. Студэнты трэцяга курса аддзялення геалогіі географа-геалагічнага факультэта камсамольцы І. Котава і Д. Чуйко вывучаюць крышталічную структуру мінералаў.

Фота А. Дзітлава.

# Беларускі ФАЯНС



Сярод маладых прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі хутка расце Мінскі фарфарава-фаянсавы завод. Тут выпускаецца тэхнічны фарфар, — галоўным чынам электрапрылады для жыллёвага, у прыватнасці, сельскага будаўніцтва. Далёка за межамі рэспублікі вядомы вырабы з фаянса, якія выпускае завод: вазы для кветак, статуэткі, некаторыя віды кухоннай пасуды, дзіцячыя цацкі. Вырабы з беларускага фаянса ўвесь час удасканальваюцца, да стварэння новых відаў прадукцыі прыцягваюцца лепшыя кваліфікаваныя сілы. На здымку: група работнікаў завода за адборам узораў мастацкіх фаянсавых вырабаў, падрыхтаваных да выпуску ў 1954 годзе; злева направа: начальнік лабараторыі С. Пяткевіч, лепшчык-мадэльшчык І. Конюх і майстар-жывапісец комсамолка М. Зяцькова.

Фота А. Дзітлава.



Мікалай ЕРШОЎ

# На раздарожжы

Апавяданне

Мал. А. Волкава.

I

Па рацэ ідзе пасажырскі параход «Гогаль». Пара — канец лета, поўдзень. Над зямлёю павісла спёка. Здаецца, што рака замарудзіла плынь і стала ад гэтага яшчэ шырэйшай. Ад гарачыні паветра трымціць, абрысы берагоў калышуцца, фарбы страцілі ранішнюю чысціню. Параход старанна плюхае пліцамі, але, калі глядзець на далёкі мутназялёны бераг, рух яго ледзь прыкметны.

На карме сядзіць раённы інспектар пажарнай аховы Фёдар Мыкін і чытае Шэкспіра. Фёдар накіроўваецца па справе ў калгас «Шлях да комунізма». Як ён атрымаў сабе пасаду — гісторыя нядоўгая. Дэмабілізаваўся з кантузіяй. Дактары агледзелі і на ўсякі выпадак параілі спакойную работу. Па меркаванню мясцовага начальства, у раёне не было работы спакайнейшай, як тушыць пажары. Яны здараюцца не часта. Паверыўшы дактарам і начальству, Фёдар і стаў пажарным інспектарам.

Спачатку ён узяўся горача. Арганізоўваў па калгасах пажарныя дружыны, якія разваліліся, інструктаваў, завозіў туды новы інвентар. Але ў першы-ж год, як на тое, здарылася ў раёне адразу тры пажары. У падзяку за клопаты Фёдар атрымаў моцны наганяй, ледзь не трапіў пад суд. Бачыць, работа не такая ўжо лёгкая, а галоўнае, няўдзячная: як ні старайся, а здарыцца што — вінаваты адзін ты.

Усё-ж Фёдар не сядзіць у райцэнтры. Яго цягне на поле, да машын, ён любіць сухое шапаценне збажыны, пах рамонкаў, васількоў па ўзбочынах дарогі. Вось ужо трэці год збіраецца ён кінуць нялюбую справу.

У жыцці ў Фёдара няма ніякіх асаблівых падзей, усё роўнае, прывычнае. Яму загадзя вядома, напрыклад, што будзе пасля таго, як ён сыйдзе на прыстані Конева.

Ён прыдзе да пераправы і цэлую гадзіну будзе свістаць, заклаўшы ў рот чатыры пальцы. Потым па яго прыедзе на лодцы Гараська — сын калгаснага конюха, вяртлявы хлапчук з канапатым носам, падобным на вераб'інае яечка. У час пераправы Гараська, напэўна, будзе прасіць дакурыць папяросу. Фёдар яго пасароміць, але пакурыцьтакі дасць.

Пасля будзе размова са старшынёй. Насупіўшы бровы, Фёдар скажа:

— Непаладкі ў вас, Нічыпар Кузьміч. Увесь пажарны інвентар расцягалі па хатах. Усюды кураць без усякай асцярогі. Ліха ведае што! Прыдзецца накласці штраф.

Ніякага штрафу, аднак, Фёдар не накладзе. Праз гадзіну пажарныя вёдры адшукаюць у хатах пад лаўкамі ў гаспадынь і павесяць на пажарных шчытах. Па патрабаванню Фёдара змажуць тавотам помпу, напоўняць вадою пажарныя бочкі, дзе трэба, прыб'юць дошчачкі: «Курыць сурова забараняецца». Варта было дзеля гэтага рабіць цэлае падарожжа з райцэнтра?

Незадаволены сабою, Фёдар загадае сабраць на інструктаж добраахвотную пажарную дружыну. Тут старшыня пачне маліцца: «пазнімся з уборкай, людзей няма...»

— Добра. У такім выпадку распішыцеся, што вы праінструктаваны.

— От гэта іншая справа, — узрадуецца Нічыпар Кузьміч, — распісацца можна. Гэта можна. А ці не дапамог-бы ты нам, Федзя, адрамантаваць малатарню? Зарэзала нас у самую гарачую пару. Ты, я чуў, быў трактарыстам, вядома, кумекаеш наконт машын.

Гэтая справа Фёдару якраз па душы, але ён выгляду не падасць, а, наадварот, зробіць нават незадаволеную ўхмылку — вазіся тут з вамі! На таку ён моўчкі скіне пінжак і ўдваіх з матарыстам палезе пад машыну. А калі яны зробяць усё, што трэба, да яго абавязкова падыйдзе Нюша Паніна — нясмелая дзяўчына з бескаляровымі брывамі і абпаленым на сонцы тварам. Ціха, так, каб ніхто не пачуў, яна скажа:

— Фёдар Іванавіч, чаму вы ў белай кашулі і проста пад машыну? Заходзьце вечарам, я памыю.

Нюша даўно кахае Фёдара і хавае гэта. Фёдар ведае, што яна падоўгу чакае яго, пра яго аднаго думае начамі. Калі ён прыходзіць, Нюша робіцца прыгожай, пакорлівай і ўсё маўчыць. Ад гэтага на душы ў Фёдара заўсёды чамусьці становіцца трывожна. Вочы Нюшы просяць адказу, а ён не рашаецца, муляецца. Вось і на гэты раз ён, напэўна, нічога не скажа. Раніцай збярэцца, нязграбна развітаецца з Нюшай і паедзе ў другі калгас, потым у трэці.

Цяпер, седзячы на карме, Фёдар Мыкін думаў не аб гэтым. Не цікавіць яго і кніга. Чытае ён толькі для таго, каб задушыць хваляванне: «Прачытаю пяць старонак, — думае ён, — і пагляджу яшчэ раз». Але, не дачытаўшы і другой, ён закрывае кнігу і ідзе да шостай каюты па левым барту.

З-за апушчанага жалюзі чуваць плач дзіцяці і жаночы голас:

— Міленькі ты мой, харошы мой, — прыгаварвае жанчына, — і чаго-ж ты разгукаўся? Дзівак ты — і больш нічога.

«Яна», — рашае Фёдар. Ён вяртаецца і наўздагад раскрывае кнігу. «Няма аповесці, сумнейшай на свеце...» — чытае ён, а сэрца шчыміць ад тугі. Баліць сэрца...

II

Гэта было не вельмі даўно — два гады назад. Па сцежцы лугам каля рэчкі ішоў Фёдар Мыкін павольна і насвістваў. Думаў к абеду быць у калгасе «Рассвет», ды сустрэў Клаву Сямёнаву — даярку з «Зары». Ішоў ён следам за Клавай па сцежцы з пруцікам, гаварыў усё, што прыдзе ў галаву. Яна-ж размахвае касынкай, і не зразумееш — слухае яго ці не. Толькі часамі супыніцца, азірнецца і скажа, смеючыся:

— Дзівакаваты вы, Фёдар Іванавіч!

Вось так ішоў-бы за ёю хоць сто вёрст, а куды — не пытай. Падабалася Фёдару гэтая дзяўчына. Ён ведаў Клаву даўно, заўсёды пры сустрэчах жартаваў і адчуваў сябе з ёй зграбным, разумным — не горш за іншых.

Невядома, як доўга яны гэтак ішлі-б, каб не здарылася навальніца. Дзень раптам зрабіўся шэрым. З-за лесу на тым баку рэчкі паўзла хмара. Фёдар узяў Клаву за руку, і яны пабеглі нацянькі да сяла.

І вось стаяць яны ля студні на скрыжаванні, глядзяць адзін на аднаго весела, з выклікам. У гэты час проста над галавой трэснуў гром. Нечакана для самога сябе Фёдар абняў Клаву і пачаў яе цалаваць. Мінула два гады, а Фёдар, як цяпер, адчувае яе статную

постаць, якая даверліва прытулілася да яго, яе гарачыя шчокі. Так некалькі часу яны стаялі ля студні, сярод белага дня, на вачах усяго сяла. На ганку свайго дома Клава павярнулася к Фёдару і махнула на развітанне касынкай.

У той дзень Фёдару так і не давялося пабываць у калгасе «Рассвет». Ноччу (яму добра запомнілася гэта) ён амаль не спаў. У доме, дзе ён заўсёды супыняўся, калі прыязджаў у «Зару», была духата, пахла малаком і цестам. Фёдар перавярнуў падушку халодным бокам да шчакі, але праз хвіліну яна зноў стала гарачай. Тады, падаслаўшы коўдру, ён лёг на падлозе.

Па вуліцы паўз акно прайшлі дзяўчаты, нехта іграў на гармоніку. Па тым, як мелодыю фальшывілі, можна было здагадацца, што іграе Грышка Дунін. На «Пабедзе» вярнуўся з раёна старшыня Клімаў, заскрыпеў два разы калодзежны журавель, і ўсё замоўкла.

У пакой ціхенька зайшла гаспадыня Палагея Сцяпанаўна са жбанком. Фёдар уткнуўся ў падушку і зрабіў выгляд, што спіць. Гаспадыня доўга стаяла ў дзвярах. Твару яе не было відно, але Фёдар ведаў, што ён зараз жаласны — гэта заўсёды бывае, калі яна задумаецца. Раптам яна сказала:

— Цябе жаніць трэба, Федзя.

Палагея Сцяпанаўна заўсёды так: маўчыць, маўчыць, а потым скажа такое, што нікому і ў галаву не прыдзе. Фёдар не ведаў, як быць — здзівіцца ад такіх нечаканых слоў ці працягваць прыкідвацца сплючым. Ён крыху памаўчаў і адказаў:

— У мяне, Сцяпанаўна, дзяўчыны няма.

Гаспадыня паставіла на стол жбанок і зноў стала каля дзвярэй. Фёдар чакаў, што яна скажа яшчэ.

— Жэнім цябе, Федзя, на Клаве Сямёнавай, — прагаварыла яна так спакойна, быццам гэта было даўно вырашана.

У грудзях у Фёдара адарвалася — пачуццё, падобнае на тое, калі нечакана падаеш з вышыні. Баючыся не выдаць хвалявання, ён асцярожна запытаўся:

— А чаму на Клаве?

— Ты ёй падабаешся і сам яе кахаеш. Ты-ж яе кахаеш?

Фёдар нічога не адказаў. Яму зрабілася горача. Ён скінуў з сябе прасцірадла і сеў.

— Не разумею, Сцяпанаўна, адкуль у вас такія звесткі. Проста дзіўна.

У пакоі было ціха. Ходзікі з шавецкім малатком замест гіры бадзёра прыкульгвалі і стукалі так, што чутно было ва ўсім доме. Каб не разбудзіць мужа, Палагея Сцяпанаўна гаварыла як мага цішэй. З яе слоў выходзіла, што з усіх дзяўчат на сяле разумней і значней Клавы нікога няма. Яна першая даярка. Кажуць, што і яе Інфузорыя і Лаура ў гэтым годзе дадуць па пяць тысяч літраў малака.

— А пасаду сваю інспектарскую ты, Федзя, пакінь. Гэтая пасада не па табе, няма ў цябе да яе здольнасці. У цябе рукі ўмелыя — вось твой талент. Толькі ты нейкі нясмелы, Федзя. Куды лёс панясе, туды ты і ідзеш сабе. Таму і не бачыш, што ты сваю сапраўдную сілу хаваеш, загубліваеш. А ты не хавай.

Фёдар усміхнуўся, але слухаў прагна.

— А Клаву ты, Федзя, кахай. Уся твая непуцёвасць куды толькі падзенецца! Яна такая. Ды як яе не кахаць? Яна, Федзя, прыгожая — Клава...

Яны прасядзелі да раніцы. Фёдар задрамаў толькі перад самым усходам сонца.

Прачнуўся ён ад крыку пеўня. Абскублены і біты не раз Цімох — галоўны вясковы певень — тройчы пракукарэкаў і, гарэзліва лопаючы крылламі, зляцеў з плоту. Фёдар расплюшчыў вочы. «Клава», — была яго першая думка. Неспакойная радасць так і абдала яго ўсяго.

Ён памыўся і пасядзеў крышку каля расчыненага акна. Пад акном расла бяроза. Ад яе ззяння было светла ў пакоі і на душы.

Фёдар пагдядзеў на сябе ў люстэрка і першы раз прыкмеціў, што кашуля яго ўся ў масляных плямах, на пінжаку толькі адзін гузік, ды і той прышыты не там, дзе патрэбна. Потым ён убачыў, што фігура яго мешкаватая. Успомніў, што танцаваць ён не ўмее, не ведае да канца ніводнай песні. Кепская справа. Каб яму ўмець іграць на гармоніку, як Грышка Дунін!

— Ты, брат, сяннік, — сказаў ён свайму адлюстраванню.

Ноччу ў праўленні калгаса вырашылі першымі прыйсці з абозам на ссыпны пункт, апярэдзіўшы суседні калгас «Рассвет». З самага рання ў сяло прыехалі на падмогу работніцы з прадзільнай фабрыкі, студэнты з дому адпачынку, піянеры з лагера.

Старшыня Клімаў даручыў Фёдару цэлую кучу спраў. Фёдар хацеў пярэчыць, што ён не хто-небудзь, а інспектар і загадваць яму Клімаў не мае права, але той не стаў яго слухаць і пайшоў на поле. Пачаліся турботы з транспартам. Аўтабаза не прыслала абяцаныя шэсць машын. Гадзіны паўтары Фёдар раз'юшана вярцеў ручку тэлефона, пасля плюнуў ад прыкрасці і на старшынёвай «Пабедзе» сам паехаў на аўтабазу. Машыны к полудню прыйшлі, затое аказалася, што на палявы стан няма каму везці ваду. Давялося самому запрагаць каня і ехаць з бочкай на поле. Потым Фёдар дапамагаў важыць збожжа, бегаў па сяле ў пошуках кудзелі для барады (у полі быў канцэрт агітбрыгады).

У гэты дзень ён бачыў Клаву толькі адзін раз. Праходзячы каля МТФ, ён заўважыў яе белы халат. Фёдар стаў за кустом акацыі, робячы выгляд, што завязвае шнурок у чаравіку. У плоце не было трох дошчак, і ён мог бачыць амаль увесь двор. Каля кармушак стаялі восем сытых халмагорак і флегматычна жавалі. Кончыўшы работу, Клава прытулілася да ствала ліпы і дастала з кішэні яблык.

— Ты яшчэ не пайшоў? — запытала яна.

Фёдар разгубіўся: яна звярталася ў яго бок. Але, адступіўшыся на крок управа, ён убачыў Грышку Дуніна, які стаяў насупраць яе каля плоту.

— Не пайду, пакуль не скажаш, — адказаў той.

Клава з задавальненнем ела яблык. Ад ліпы на яе кідаўся стракаты цень. Сонечны зайчык, прабіўшыся праз лісцё, наравіў трапіць ёй у вочы, яна жмурылася і смяялася.

— Грышка, цябе-ж гэта, мабыць, чакаюць там, — яна паказала ў бок поля.




Алесь АСТАПЕНКА

## Выпала пароша

Снег... Выпаў снег... А ўчора-ж, як на дзіва,
Стаяў пагодлівы і зорны вечар,
Калі мы дамаўляліся шчасліва
Аб сённешняй з табой сустрэчы.

Дарэмна, мабыць, я цябе чакаю...
Ну што сказаць табе, маёй харошай?..
Няўжо ты, акуратная такая,
Не выйшла на спатканне з-за парошы?

Так хочацца мне быць у тваёй хаце —
Удвух хутчэй дзявочы сум прагонім.
З табой мы ў клубе будзем сустракацца,
Адновім сцежку і па снежных гонях.

* * *

Ледзь я пазнаў сваю дзяўчыну,
Так перайначыў яе іней.
Крануўся ён да кос густых,
Пакрыўшы сівізною іх.

Прыліп да вейк доўгіх, чорных,
Такіх прыгожых, непаўторных...
На паліто паклаў свой знак,
Брыво падправіў, як мастак.

Вясёлую, з усмешкай яснай
Хацеў зрабіць старой заўчасна...
Як ні стараўся ён умела,
А жарт яго мне зразумелы.

* * *

Ты прынесла зіму у пакой,
А мне стала цяплей на сэрцы...
Так бывае заўсёды са мной,
Як з табой пашанцуе сустрэцца.

Хай злуе, вар'яцее мароз,
Хай лютуе бязлітасны вецер,
Халады працінаюць да слёз, —
Мне не страшна нічога на свеце.

Бо каханне нашу я даўно,
З ім сябе адчуваю я дужым...
У жыцці акрыляе яно,
Перад ім адступаюцца сцюжы.

— Я на цябе крышку пагляджу, а потым пайду. Ці ўжо і глядзець няможна?

— Ну, і дурань ты! Скажаш, не?

Яна дастала з кішэні другі яблык і кінула яму.

— Лаві!

Грышка Дунін, вядома, не злавіў. Фёдар чуў, як яблык грукнуўся аб плот.

...Позна вечарам, калі вярнуўся з нарыхтоўчага пункта першы абоз і па сяле паплылі песні, Фёдар пайшоў выкупацца ў рацэ. На беразе каля старога дэбаркадэра ён убачыў урача Генадзія Сяргеевіча Колышкіна. Той з вудай сядзеў на камені і лавіў рыбу.

Блізка з ім Фёдар не быў знаёмы. Колышкін прыехаў у сяло нядаўна, пасля заканчэння інстытута. Ён прыгожы: адкрыты лоб, шэрыя вочы. У сяле казалі, што ён знарок не носіць шапкі, каб ускружыць галовы дзяўчатам сваёй шавялюрай. У кожным нумары раённай газеты пад рубрыкай «Парады ўрача» з'яўляліся заметкі. Колышкін адчуваў сябе, як кажуць, на вышыні.

Фёдар падсеў да яго. Каб як-небудзь пачаць размову, ён сказаў:

— Я сёння да вас у кабінет лазіў праз акно. Па вазелін. Піянерка на сонцы абпаліла рукі. Нічога?

— Праз акно ў мой кабінет? — Колышкін маляўніча павярнуўся да Фёдара. — Мне падабаецца ваша непасрэднасць.

Фёдар улавіў насмешку, але нічога не сказаў. На тым баку ракі яшчэ не патух захад, а месяц ужо быў над галавою. Было вельмі ціха, пахла вадой і кветкамі.

Парушаючы цягучае маўчанне, Фёдар перавёў размову на калгасныя справы.

— Небывалы ўраджай... Клава Сямёнава, кажуць, атрымае пяцітысячны надоі...

— Несумненна. Гэта несумненна, — зірнуўшы на гадзіннік, сказаў Колышкін. — Між іншым, Клава зараз прыдзе.

Спачатку Фёдар узрадаваўся. Але тут-жа ўсмешка застыла ў яго на твары нязграбнай грымасай: чаму раптам Клава прыдзе сюды, да Колышкіна? Сумненняў быць не магло: яна прызначыла яму сустрэчу.

Апошнія словы Колышкіна Фёдар зразумеў, як намёк. Ён наспех выдумаў нейкую прычыну і пайшоў. Не выбіраючы дарогі, пайшоў па сенажаці. У ім змагаліся два чалавекі. Адзін патрабаваў: «Вярніся! Яна кахае цябе. Стой за свае права, гэта-ж Клава — тваё жыццё». Другі казаў: «Ты не раўня доктару. Ён разумны і прыгожы, а ты — ні тое, ні сёе. Усёроўна нічога не выйдзе, толькі прынізіш сябе». Але пакуль ішла гэтая спрэчка з самім сабой, ногі неслі яго ўсё далей ад Клавы.

За агародамі ён кінуўся ў стог сена і доўга ляжаў нерухома. Ім апанавала пакутлівая рэўнасць. Ён уяўляў, як Клава завіхаецца, агародамі па сцежцы бяжыць, размахваючы касынкай, да Колышкіна. Светлая сукенка яе мільгае паміж кустоў.

Фёдар адчуў пякучую нянавісць да прыгожага доктара. Чамусьці ўспомніўся адзін лектар, які доўга даказваў, што рэўнасць — перажытак капіталізма. Лектар быў з залатымі зубамі і лысы. Фёдар зненавідзіў і яго.

У тую-ж ноч, не заходзячы ў сяло, ён пайшоў у «Рассвет». Доўга не мог ён перажыць гэтага выпадку. Парываўся прыйсці да Клавы, збіраўся напісаць ёй пісьмо, але так і не рашыўся. Потым яго перавялі ў другі раён. Цяпер, пасля двух год, гісторыя аб тым, як ён правароніў шчасце, устала перад ім ва ўсіх падрабязнасцях.

## III

Федар зноў загарнуў кнігу. Чытаць ён не мог. «А можа здалося»? — пачаў сумнявацца ён. Але ў гэтую хвіліну, калі ён сабраўся было ў дзесяты раз ісці да акна каюты па левым барту, ён раптам убачыў Грышку Дуніна. Той ішоў насустрач з чайнікам у руцэ. Ад здзіўлення Дунін нават не прывітаўся, а, выгукнуўшы толькі: «Вось дык сустрэча!», пацягнуў Фёдара за сабой. Той не паспеў разабрацца, што да чаго, як апынуўся ў каюце. Штурхнуўшы яго праз дзверы, Грышка пабег па чай.

Спіной да дзвярэй сядзела Клава, побач на ложку спала дзіцё. На шум у дзвярах Клава павярнулася.

— Клава! — вырвалася ў Фёдара.

— Добры дзень, Фёдар Іванавіч...

Яна перамянілася. Валасы ў яе цяпер не віліся, не спадалі на плечы, як калісьці. Яна іх гладка зачэсвала назад і збірала ў клубок на шыі.

Клава запрасіла госця прысесці.

— Ну вось: жонка і маці. — Яна вінавата ўсміхнулася. — Непрыгожая?

Яна была вельмі прыгожай. Фёдар так і хацеў сказаць, але пасаромеўся і змоўчаў.

Вярнуўся Грышка з чайнікам.

— Разумееш, — звярнуўся ён да жонкі, — іду і раптам бачу: Фёдар! Стаіць на карме і сумуе. Ну, я яго сюды.

— Ты цішэй, — яна паказала на дзіцё, што спала на ложку.

Дунін прыставіў да губ палец.

— А мы, разумееш, у вобласць едзем, атрымліваць Залатую Звязду. Клава ў мяне цяпер Герой. Ведаеш, нябось, газеты чытаеш.

— Грышка, — сказала Клава, — схадзі ў буфет...

Дунін стукнуў дзвярыма і зноў знік. Фёдар быў збянтэжаны: аб тым, што Клава атрымала званне Героя Працы, ён не ведаў.

— Віншую цябе, Клава. І ведаеш што, я цябе распытваць не буду, ты раскажы сама...

Яна пачала з самага галоўнага, як быццам ведала, аб чым ён думаў, седзячы на карме:

— Чаму-ж вы, Фёдар Іванавіч, тады пайшлі? Мне сказалі, што вы паехалі кудысьці зусім. Думала, што можа пісьмо прышлеце, а вы не прыслалі.



Фёдар маўчаў, адчуваючы, як яго апаноўвае туга. Клава сядзела спіной да святла. Быў відаць залацісты пушок на яе шчоках. Завушнічкі прасвечваліся, падобныя на дзве недаспелыя вішанькі.

— Так, справа была. Надумалася я пісаць брашуру аб раздоі кароў. На гэту думку мяне навёў Грышка. Цяпер, кажа, гэта патрэбна таму, што развіццё жывёлагадоўлі і ўсё такое. У цябе, кажа, вопыт ёсць і хаваць яго — злачынства. А ў мяне, праўда, вопыт ёсць.

Я — да доктара: дапамажыце, Генадзі Сяргеевіч. Ён прызначае мне сустрэчу каля рэчкі: прыходзьце, памяркуем. Нічога не зробіш, іду. Так я хадзіла да яго цэлы месяц. Па сяле гаворкі, а мне толькі-б дабіцца свайго. Ён ужо спявае мне песенькі, але ледзь павяду размову пра справу, пачынае: гэта справа, бачыш, вельмі цяжкая, адказная, трэба падумаць і ўсё такое. Прыходжу, расказваю Грышку, а сама ледзь не плачу. Крыўдна, што паверыла яму.

Грышка кажа: я і раней ведаў, што нічым ён табе не дапаможа. Ты не глядзі, кажа, што ён вучоны. І не кахае ён цябе. Калі вось я цябе кахаю, то я магу табе жыццё аддаць. А ён хіба аддасць? Бачу: Грышка — сябра, а з такім не страшна. Раслі мы з маленства разам, я неяк не прыкмячала, што ён такі.

Брашуру я напісала разам з Грышкам. Надрукавалі яе. Я зусім асмялела. Думаю, давяду надой да пяці тысяч літраў ад усіх васьмі кароў. Гэта было цяжэй, чым напісаць, але тут мне дапамог увесь калгас.

Фёдар думаў: як здарылася, што клавіна слава ледзь было не прайшла паўз яго? Не чытае газет? Не, тут іншае...

У галаву палезлі бесталковыя думкі. Чамусьці ўспомнілася армія. Доўгія маршы, стомленасць звальвае з ног. Кожны кусцік у дарозе кажа: прысядзь, адпачні. Ды нельга. Як толькі паверыш сабе, што стаміўся — адстанеш, і шмат трэба будзе сілы, каб дагнаць сяброў...

Фёдар вышаў на палубу, каб хоць як-небудзь разабрацца ў думках.

Збіралася на дождж. Неба пацямнела, з поўдня павеяў напорысты вецер. Пасажыры махалі хусцінкамі сустрэчнаму параходу, на палубе было страката і шумліва.

І раптам Фёдар ясна зразумеў, амаль убачыў, як імчыцца наперад прыгожае, цікавае жыццё, і ўсё паўз яго, паўз яго.

— А вунь і прыстань Конева, — сказала Клава. — Вам, Фёдар Іванавіч, куды?

На самай справе, куды яму? Гэта-ж трэба да чагосьці ісці! Ён успомніў шчырую, адданую Нюшу Паніну. Яна цяпер яго чакае. Хопіць! На гэты раз ён скажа ёй сваё цвёрдае слова. Так і скажа: «Не кахаю, Нюша, выбач».

Клава чакала адказу. Фёдару зрабілася да болю сорамна ад таго, што вось ёй, Клаве, даводзіцца яго шкадаваць, спачуваць яму.

— А я, Клава, у раён за прызначэннем, механікам хачу стаць, — сказаў ён, чырванеючы за гэтую хлусню, хоць ён ужо цвёрда ведаў, што гэта не была хлусня.

**Пераклад з рускай мовы.**

ЛЮДЗІ СОВЕЦКАГА СПОРТУ

# На старце — Міхась Ксяневіч

Барыс ВАЛОЎ

Гэта здарылася ў марозную студзеньскую ноч 1943 года. Партызан Міхась Ксяневіч разам са сваімі таварышамі па дыверсійнай групе атрада імя Фурманава вяртаўся з баявога задання. Толькі што яны замініравалі чыгуначнае палатно. Аперацыя была праведзена ўдала.

Як і было дамоўлена, асноўная група пачала адыходзіць, а Міхась застаўся ў хмызняку прыкрываць яе адыход.

Мінула пяць хвілін. Па разліках Міхася партызаны былі ўжо далёка. Ксяневіч стаў на лыжы і рушыў у кірунку да лагера.

Вось і знаёмае балота, за ім — лес. У лесе снег быў больш глыбокі, і ісці стала цяжэй. Пранозлівы вецер кідаў у твар камякі снегу.

Раптам зусім побач хтосьці крыкнуў, і адразу-ж учэпістыя рукі абхапілі цела. «Засада!» — прамільгнула ў галаве. Паверх ватоўкі на Міхасю была плашч-палатка. Ксяневіч імгненна прысеў і тут-жа рвануўся ўбок. У руках гітлераўца засталася плашч-палатка. Міхась даў доўгую чаргу з аўтамата і кінуўся наўцёкі. З усіх бакоў чуліся стрэлы. Калі ў неба ўзляталі ракеты, Міхась клаўся на снег, а потым узнімаўся і адыходзіў усё далей і далей. Але вось нечым пякучым ударыла ў правую руку. Ксяневіч паваліўся. Зірнуўшы назад, ён убачыў некалькі белых постацей. Гэта былі апранутыя ў маскіровачныя халаты гітлераўцы.

— Ну, не! Усёроўна не возьмеце! — прашаптаў Міхась.

Ксяневіч усё далей і далей адыходзіў ад ворагаў. «Лыжы! Як добра, што я на лыжах!» Часамі ён прыпыняўся і, даўшы доўгую чаргу з аўтамата, зноў прадаўжаў ісці.

І Міхась дабраўся да партызанскага лагера.

Гэты эпізод Ксяневіч раптам нечакана для самога сябе прыгадаў на рэспубліканскіх спаборніцтвах сельскіх лыжнікаў. І прыгадаў вось чаму.

Дыстанцыя ў 10 кіламетраў пралягала па моцна перасечанай мясцовасці. Роўная цаліна змянялася нечаканай лагчынай, пад'ём — паваротам. На такой дыстанцыі для лыжніка важна не толькі правільна размеркаваць сілы, але і быць пільным, своечасова заўважыць небяспеку.

Разам з Міхасём Ксяневічам, прадстаўніком калгаса «Інтэрнацыянал» Уздзенскага раёна, стартавалі мацнейшыя лыжнікі добраахвотнага спартыўнага таварыства «Калгаснік». Хто будзе пераможцам?..

Пройдзена 7 кіламетраў. Міхась мінуў ужо многіх гоншчыкаў. Наперадзе быў толькі адзін спартсмен — леташні чэмпіён Якаў Крывенкаў. Ён стартаваў на 6 мінут раней за Ксяневіча. Ці здолее Міхась дагнаць яго?..

Вось тут і прыгадаўся яму стары, амаль забыты ўжо эпізод з часоў партызанскай барацьбы. Здолеў-жа тады ён, цяжка паранены, знайсці ў сабе сілы на тое, каб дамагчыся амаль немагчымай перамогі. Павінен і зараз знайсці!

Хуткасць паступова нарастае. Добра змазаныя лыжы шпарка ідуць па лыжні. Здаецца, што постаць спартсмена і лыжы зліліся ў адно.

— Добра ідзеш, Міхась! — пачуўся чыйсьці спакойны падбадзёрваючы голас. Ксяневіч зірнуў назад і ўбачыў трэнера, свайго настаўніка.

Гэта ён першы распазнаў у высокім шырокаплечым юнаку будучага спартсмена. Памятае, вельмі добра памятае Міхась той дзень на абласных спаборніцтвах, калі яны сустрэліся і пазнаёміліся.

— У цябе, Міхась, — гаварыў тады настаўнік Рэнель, — ёсць, на маю думку, усе якасці, неабходныя для спартсмена: сіла, вынослівасць, воля да перамогі. Нехапае аднаго — тэхнікі. Калі здолееш набыць яе — поспех у спорце будзе забяспечаны.

І малады калгаснік з вёскі Ануфрава Уздзенскага раёна прыступіў да рэгулярнай спартыўнай вучобы. Ён вывучаў тэхніку бегу вядучых лыжнікаў краіны, чытаў і перачытваў спецыяльную літаратуру, асабіста гутарыў з многімі вядомымі беларускімі спартсменамі.

І вось ён на дыстанцыі рэспубліканскіх спаборніцтваў. Як яны закончацца? Што дадуць новага ў спартыўную біяграфію Ксяневіча?..

Міхась узмацніў тэмп. Наперадзе паказалася знаёмая постаць лыжніка. Некаторы час абодва гоншчыкі ішлі адзін за другім. Заставалася яшчэ 200 метраў да фініша, і тады Ксяневіч, ірвануўшыся ўперад, мінуў таварыша і пад дружныя апладысменты гледачоў фінішыраваў першым.

Спартыўная біяграфія М. Ксяневіча пачалася ў 1951 годзе, калі ён выступіў на спаборніцтвах лыжнікаў Уздзенскага раёна.

Выступіў Міхась тады кепска. Настолькі кепска, што нават паказвацца на фінішы было сорамна. Нехта з гледачоў жартам назваў яго мядзведзем. А другі дадаў:

— Вядома, мядзведзі шпарка бегаць не здатныя...

І добры дзесятак знаёмых хлопцаў і дзяўчат весела зарагаталі.

Пакрыўдзіўся Міхась. Другі на яго месцы, маладушны, напэўна, кінуў-бы спорт. Але ў Міхася гэтая першая няўдача, наадварот, выклікала жаданне зрабіцца сапраўдным спартсменам.

Цярністы шлях спартсмена. Бываюць у яго выдатныя поспехі, бываюць і няўдачы. Нічога не даецца лёгка. Толькі вялікай крапатлівай працай дасягаецца перамога. З упартай паўсядзённай працы і пачаў Ксяневіч. Увесь вольны ад работы час Міхась аддаваў трэніроўкам. Бегаў, займаўся гімнастыкай, вывучаў тэорыю.

Да канца сезону ён ужо выканаў норму другога разрада і быў уключаны ў зборную каманду беларускіх лыжнікаў таварыства «Калгаснік». У 1952 годзе Ксяневіч выканаў норму першага разрада і заваяваў званне чэмпіёна Мінскай вобласці па лыжах.

Новыя спартыўныя дасягненні прынесла зіма 1953 года. Ксяневіч выйграў першыя месцы на 10, 18 і 30 кіламетраў на рэспубліканскіх спаборніцтвах сельскіх лыжнікаў. Паспяхова выступіў ён і на Усесаюзных спаборніцтвах у Яхраме Маскоўскай вобласці, дзе пацвердзіў першы разрад па новай спартыўнай класіфікацыі.

Міхась Ксяневіч, акрамя лыж, паспяхова выступае ў спаборніцтвах па веласіпеду. У 1953 годзе ў шасейнай гонцы на 100 кіламетраў на прыз газеты «Мінская праўда» ён выканаў норму майстра спорту. Удзельнічаючы ў пяршынстве краіны сярод сельскіх спартсменаў, Міхась Ксяневіч у складзе беларускай каманды заняў першае месца ў гонцы на 50 кіламетраў, палепшыўшы гэтым усесаюзнае дасягненне.

Вялікай падзеяй у спартыўным жыцці не толькі Міхася Ксяневіча, але і ўсёй спартыўнай грамадскасці Беларусі, з'явілася шматдзённая шасейная гонка на 850 кіламетраў. На старт вышлі мацнейшыя веласіпедысты рэспублікі Драňько, Лі Фу, Малец, Якутовіч. Упершыню ўдзельнічаючы ў шматдзённай гонцы, Ксяневіч заняў другое месца.

Узаемная таварыская выручка, клопат не толькі аб сваіх асабістых выніках, але і аб лёсе ўсёй каманды — такія якасці совецкага спартсмена. Уласцівы яны і Міхасю Ксяневічу.

На пяршынстве краіны сярод сельскіх лыжнікаў, якое праводзілася ў Горкім, адбыўся такі выпадак. Беларуская каманда стартавала на дыстанцыю 30 кіламетраў. Бег праводзіўся па моцна перасечанай мясцовасці. На другім крузе ў аднаго з беларускіх спартсменаў зламалася лыжа, і ён выбыў са спаборніцтваў. Ксяневіч разам з другімі таварышамі па камандзе паказваў добры час. Але вось няўдача спасцігла і яго. Пераадольваючы круты спуск, ён зачапіўся за нешта і паламаў лыжу.

— Давай адпачнем, дружа! — сказаў удзельнік другой каманды, які таксама пацярпеў няўдачу.

— Гэта як — адпачнем?

— Вельмі проста. Пакурым, распалім вогнішча, пагрэемся і — пехатой да фініша. Рабіць больш няма чаго.

— Не, ёсць! — рашуча сказаў Міхась і подскакам, на адной лыжы, пабег назад за 2 кіламетры дзе застаўся спартсмен з беларускай каманды з паламанай лыжай. Узяўшы цэлую лыжыну, ён працягваў гонку. Няважна, што Ксяневіч асабіста паказаў дрэнны час. Важна тое, што беларуская каманда ўсё-ж трапіла ў залік. А калі-б Ксяневіч пакінуў гонку, каманда выбыла-б з заліку і страціла-б шмат ачкоў.

Свой немалы вопыт і спартыўнае майстэрства Міхась Ксяневіч ахвотна перадае моладзі Уздзенскай дзіцячай спартыўнай школы, дзе ён зараз працуе. Не парывае сувязі Міхась і са сваім калгасам «Інтэрнацыянал». Ён дапамог калгаснікам стварыць фізкультурны калектыў і зараз з'яўляецца яго пазаштатным інструктарам.

І калі хто-небудзь з уздзенскіх спартсменаў выходзіць пераможцам, ён з гонарам гаворыць:

— Я вучань Міхася Ксяневіча.

А калі дыктар аб'яўляе па радыё: «На старце — Міхась Ксяневіч», — мы бачым дужага і валявога совецкага спартсмена, у якога наперадзе яшчэ шмат перамог.

**Майстар спорту СССР інструктар па лыжнаму і веласіпеднаму спорту ДСТ «Калгаснік» М. Ксяневіч.**

Фота П. Наватарава. (Фотахроніка БЕЛТА.)





# Мінскі падшыпнікавы

На ўскраіне Мінска размясціліся карпусы шарыкападшыпнікавага завода. Завод забяспечвае прамысловасць Беларусі рознастайнымі падшыпнікамі.

На заводзе працуе многа моладзі. Маладыя рабочыя ідуць у першых радах спаборнічаючых.

На здымках: лепшыя людзі падшыпнікавага завода.

1. Тэхнолаг Валянціна Тарлыкава, работніца Каця Баранава і комсамолец-наладчык Франек Ерман за наладкай станка.

2. Комсамолка Тамара Кароль. На шліфавальным станку яна выконвае норму выпрацоўкі на 220—240 працэнтаў.

3. Наладчык Пётр Думанскі абслугоўвае пяць шліфавальных станкоў, якія выпрацоўваюць прадукцыю з дакладнасцю да некалькіх мікрометраў.

На здымку ўнізе — падшыпнікі розных памераў, якія выпускае мінскі завод.

Фота Ф. Бачылы.















У дзіцячым садзе соўгаса «Рось» Гродзенскай вобласці. Дзеці інсцэніруюць казку «Зайка-зазнайка».

Фота А. Дзітлава.

